расы і карэнных народаў у Канадзе[13]; і, нарэшце, ізраільска-амерыканскі журналіст Аркадзій Мазін, вывучаючы араба-ізраільскі канфлікт, надае асобную ўвагу стаўленню да расавай праблематыкі ў рускамоўных супольнасцях Ізраіля і ЗША[14]. Таксама значным у кантэксце адносінаў паміж рознымі меньшасцямі нам прадстаўляецца даследванне Сільвана Бруяра і Вансара Тыберы пра каштоўнасці і стаўленне да розных сацыяльных праблемаў французаў турэцкага, магрэбінскага (паўночны захад Афрыкі), цэнтральнаафрыканскага (Афрыка на поўдзень ад Сахары) паходжання; аўтары, напрыклад, разглядаюць на вялікіх дадзеных іхнія стаўленне да іншых меньшасцяў, прынамсі, даследуючы праблемы антысемітызму ў гэтых асяроддзях[15].

Менавіта частковаму запаўненню гэтага прабелу ў ведах пра стаўленне імігрантаў да іміграцыі прысвечанае нашае дасдедванне. Асноўнай часткай яго з'яўляецца серыя з 20 інтэрв'ю з беларусамі, якія на дадзены момант пражываюць у Бельгіі, рознага ўзросту (ад 23 да 63 гадоў), гендару (14 жанчын, 6 мужчын), прафесій і адукацыі (16 суразмоўцаў маюць вышэйшую адукацыті), якія імігравалі ў Бельгію ў розныя перыяды (з 1998 па 2019) гг, і пражываюць у гарадах і вёсках розных яе рэгіенаў (3 ў Брусэлі, 2 ў Валоніі, 15 у Фландрыі). Некаторыя (14 з 20) маюць бельгійскае грамадзянства; з тых 5 чалавек, якія яго не маюць, 2 маюць грамадзянства іншых краінаў Еўразвязу. Большасць інтэрв'ю праводзілася па відэасувязі ; мова была ў 14 выпадках рускай, у 6 – беларускай, паводле выбару суразмоўцаў. Мы задавалі ім наступныя адкрытыя пытанні: *«Як іміграцыя ўплывае на Бельгію, на яе культуру, эканоміку, развіццё?»*; «*Што вы думаеце пра пра іміграцыйную палітыку Бельгіі?»*; *«Наколькі тэма іміграцыі для вас важная?»*; *«Што паўплывала на вашыя погляды на іміграцыю?»*; *«Што вы думаеце пра Еўрапейскі Саюз і яго будучыню?»*; *«Што вы думаеце пра дэмакратыю ўвогуле, і пра дэмакратыю ў Бельгіі ў прыватнасці?»*; *«Ці змяніліся вашыя палітычныя і іншыя погляды падчас вашага жыцця ў Бельгіі, і калі так, то якім чынам?»*. Тэкст фіксаваўся падчас інтэрв'ю з дапамогай нататкаў ці аўдыезапісу і потым набіраўся ў тэкставым рэдактары, пасля чаго падвяргаўся якаснаму аналізу, тэматычнаму і тыпалагічнаму.

Нерэпрэзентатыўнасць нашых суразмоўцаў адносна ўсіх беларусаў Бельгіі (колькасць якіх мы, інтэрпрэтуючы адкрытыя статыстычныя дадзеныя, ацэньваем у 3-5 тысяч[16 17]) абумоўленая ня толькі невялікай колькасцю, якая адпавядае прынцыпам якаснага аналізу, у адрозненне ад колькаснага[18 19 20], але і тым, што аўтарка, сама, будучы актыўнай у беларускай дыяспары, шукаючы ўдзельнікаў даследвання, лагічным чынам звярталася да кола тых, хто таксама ўдзельнічаў у беларускіх акцыях і мерапрыемствах, як падчас мабілізацыі 2020 года, так і раней. Але гэты эфект – залішняй рэпрэзентацыі палітычна актыўных беларусаў - часткова кампенсуецца разрастайнасцю складу ўдзельнікаў, а таксама нашым пошукам суразмоўцаў ня толькі сярод актыўных у дыяспары, але і ў іншых асяродках (эмігранцкія групы ў сацсетках, кола знаёмых). Пры гэтым мы асаблівую ўвагу звярталі на тэмы і матывы, якія паўтараліся ў выказваннях розных суразмоўцаў. Таксама для паўнаты агляду мы ўжывалі дадзеныя вялікіх

[13] Vozna A. 2022. *How Do Immigrants From the Post-Soviet Countries Interact With the Race and Indigeneity Discourses in Canada?* The conference *ASN Annual World Convention,* Panel M9, *Integration and Otherin*g. 2022. https://www.asnconvention.com/panelm9

[14] Mazin A. *The Russian Paradox.* Peace Cast #125, the 3d of Mai, at the Amercian for Peace Now. : https://peacenow.libsyn.com/125-the-russian-paradox , 2020.

[15] Brouard S., Tiberj V. *Français comme les autres ? Enquête sur les citoyens d'origine maghrébine, africaine et turque.* Presses de Sciences Po, 2005.

[16] EUROSTAT https://ec.europa.eu/eurostat/web/main/data/database

[17] STATBEL https://statbel.fgov.be/fr/propos-de-statbel/nos-partenaires/eurostat

[18] Белановский С.А. *Глубокое интервью и фокус-группы.* Часть 2. *Индивидуальное глубокое интервью.* Москва, 2019 (4-е издание).

[19] Анипкин, М. *Что такое глубинное (качественное) интервью?* Блог автора https://youtu.be/EK2hdvVGbDc , 2018.

[20] Анипкин М. *Количественные vs качественные методы в социологическом исследовании ?* Блог автора: https://youtu.be/VNID3OUmQLc , 2018.

рэпрэзентатыўных колькасных даследванняў : World Values Survey, European Social Survey, Eurobarometer, EU Neighbours[21] [22] [23] [24] [25] [26].

Пытанні пра дэмакратыю і ЕЗ у кантэксце нашага інтарэса збольшага да поглядаў на іміграцыю абумоўленыя нашым інтуітыўным адчуваннем, што адкрытасць да іміграцыі, як і талерантнасць, прыняцце разнастайнасці, у тым ліку паходжаня і ладу жыцця, робіць грамадствы больш свабоднымі, а залішнія іміграцыйныя абмежаванні і ксенафобія змяньшаюць узровень свабоды; ва ўсялякім разе, паводле нашага суб'ектыўнага адчування, а таксама паводле развагаў і штудый Чандрана Кукатаса[27] [28]. Нашым асабістым каштоўнасцям, якім адпавядаюць адкрытыя межы, свабода перамяшчэння[29] і талерантныя грамадствы, якія шануюць разнастайнасць, адпавядаюць таксама ідэі Франсуа Жемена[30], які паказвае практычную нерацыянальнасць спробаў закрыць межы і барацьбы супраць іміграцыі [31], а таксама Андрэа Рэа[32], Жана-Мішэля Лафлёра і Аблэльыслама Марфука[33], Корын Торэкенс[34] і шэрага іншых бельгійскіх даследчыкаў у галіне сацыялогіі міграцыі і даследвання этнічных і рэлігійных меньшасцяў. Што да стаўлення да ЕЗ, то еўраскептыцызм у апытаннях карэлюе з антыімігранцкімі настроямі[35] [36].

Асноўнай частцы нашага даследвання папярэднічала пілотнае даследванне стаўлення да іміграцыі ў асяроддзі імігрантаў з трох постсавецкіх краінаў – Беларусі, Украіны і Расіі, якія пражываюць у Бельгіі.[37] Пілотнае даследванне было ў двух частках: першая – гэта аналіз пастоў і каментароў у адпаведных эміграцкіх групах у Фэйсбуку (украінскіх, беларускіх і «рускіх» ці інтэрнацыянальных рускамоўных), знойдзеных паводле ключавых словаў *«мігрант», «мігранты», «міграцыя», «бежанец» / «уцякач», «бежанцы» / «уцекачы», «імігрант», «імігранты», «іміграцыя», «эмігрант», «эмігранты», «эміграцыя»* на мовах, якія ўжываюцца

---

[21] EUROPEAN SOCIAL SURVEY (ESS) https://www.europeansocialsurvey.org/data/

[22] *Europeans' Understandings and Evaluations of Democracy: Topline Results from Round 6 of the European Social Survey*, 2014. ESS Topline Results Series, issue 4, septembre 2014. www.europeansocialsurvey.org

[23] EVS/WVS (2020). European Values Study and World Values Survey: Joint EVS/WVS 2017-2021 Dataset (Joint EVS/WVS). JD Systems Institute & WVSA. Dataset Version 1.0.0, doi:10.14281/18241.2

[24] EUROPEAN COMMISSION. EU OPEN DATA PORTAL. https://data.europa.eu/euodp/en/home

[25] PUBLIC OPINION MOBILE – EUROPEAN COMISSION – EUROBAROMETER INTERACTIVE https://ec.europa.eu/commfrontoffice/publicopinionmobile/index.cfm/Chart/index

[26] EUROBAROMETER, SPECIAL 469 "Integration of immigrants in the European Union"

[27] Kukathas Ch. *Immigration and Freedom.* Princeton University Press, 2021.

[28] Кукатас, Ч. *Иммиграция и свобода.* Основной доклад на конференции Национального студенческого союза (международная секция), Милтон Кейнс, 24 апреля 2013 года. https://old.inliberty.ru/library/575-immigraciya--inbspsvoboda

[29] Трэба адзначыць, што адкрытыя межы і свабода перамяшчэння не тоесныя паміж сабой: свабода перамяшчэння, якая тычыцца ў тым ліку пошуку працы, існуе, напрыклад, унутры ЕЗ, а адкрытыя межы ў ЕЗ ёсць і з многімі дзяржавамі, якія не ўваходзяць у яго, ад Украіны і Грузіі да Бразіліі: гэта не свабода іміграцыі, але магчымасць перасякаць мяжу бяз візы.

[30] Gemenne F. *On a tous un ami noir. Pour en finir avec les polémiques stériles sur la migration.* Fayard, Paris, 2020

[31] Gemenne F. *Septante minutes avec François Gemenne – Justice Migratoire.* Série des podcasts « J'aime bien quand tu parles ». : https://youtu.be/LKcj7LzApFg , 2020g

[32] Rea A., *Socilogie d'immigration.* Troisième édition. La Découverte, 2021.

[33] Lafleur J.-M., Marfouk A. *Pourquoi l'immigration? 21 questuions que se posent les Belges sur les migrations internationales aux XXI ciecle.* Ed. Academia, 2017,

[34] Torrekens C. *Septante minutes avec Corinne Torrekens – La sociologie des musulmans.* Série des podcasts « J'aime bien quand tu parles », 2020 : https://youtu.be/uPVDObXvyiI

[35] Boomgaarde H.G., Schuck A.R.T., Elenbaas M., De Vreese C.H. *Mapping EU attitudes: Conceptual and empirical dimensions of Euroscepticism and EU support.* [in:] *EUP* (European Union Politics), 12 (2), 2011, p. 241-266. Reprints and permissions: sagepub.co.uk/journals

[36] Stockemer D., Niemann A., Unger D. *The "Refugee Crisis," Immigration Attitudes, and Euroscepticism.* [in:] *European Union Politics.* 12(2), p. 241–26. Octobres 23, 2019.

[37] Тарайкевич, М.Л. *Расизм и борьба за толерантность в среде эмигрантов из России, Беларуси и Украины, живущих в Бельгии.* [в:] Сборник статей *« Современный расизм : идеология и практика ».* Московский экономический институт ; Институт этнологии и антропологии имени Н.Н. Миклухо-Маклая, 2022, с. 235-272.

ў групах[38]; другая – заснаваная на апытальніку, прапанаванаму ў тых жа групах, з пытаннямі пра іміграцыю, дэмакратыю і Еўразвяз. Нашыя нерэпрэзентатыўныя дадзеныя другой часткі даследвання мы для валідацыі высноваў супастаўлялі з вялікімі колькаснымі дадзенымі WVS/ ESS, Еўрабарометра і інш.[39].

Перад тым як разглядаць вынікі і рабіць высновы, мы лічым патрэбным сказаць пару словаў пра новы расізм, бо гэтая з'ява важная ў разуменні рыторыкі наконт іміграцыі. Калі стары, ці біялагічны, расізм сцвярджае няроўнасць расаў[40], то новы, ці культурны, расізм на словах выступае супраць расавай няроўнасці, але пры гэтым нібы замяняе слова «раса» словам «культура», пры гэтым успрымаючы розныя культуры не як адкрытыя і ўзаемапранікальныя сістэмы, а хутчэй, як закрытыя і нязменныя, прычым з імпліцытнай ідэяй, што чалавек нібы мае толькі адну культуру, а менавіта тую, якую засвоіў у дзяцінстве, і якая нібы фатальна на яго ўплывае, ігнаруючы здольнасці людзей засвойваць некалькі культураў, з'явы бікультуралізму (калі чалавек засвоіў дзьве культуры і адпаведна сітуацыі пераходзіць з адной культуры на другую, падобна як пры білінгвізме пераходзяць з адной мовы на другую)[41]. Для сучаснага расізма характэрныя ідэі, прынамсі, неспалучальнасці культураў, ці «парога талерантнасці»[42]. Некаторыя даследванні паказваюць сувязь сучаснага расізма з антыіміграцыйнымі настроямі[43]. Не толькі антысемітызм, але і ісламафобію некаторыя даследчыкі лічаць формамі сучаснага расізму[44] (у апошнім выпадку можна казаць пра фенамен расалізацыі рэлігіі)[45].

Барацьбе супраць расізма, на наш погляд, перашкаджаюць стаўленне абвінавачвання і пераход на асобы замест аналізу калектыўных забабонаў. Мы падзяляем меркаванне, што ўсе белыя – расісты, як, да прыкладу, і ўсе мужчыны сэксісты, ці ўсе рускія падвержаныя імперскаму менталітэту. Гэта не таму, што нібыта яны – дрэнныя людзі, а ў сілу наяўнага ў грамадствах дысбалансу ўлады паміж рознымі групамі (мужчынамі і жанчынамі, людзьмі рознага колеру скуры і г.д.); і расізм – гэта не дрэнныя асабістыя якасці, а сістэма ідэй, стаўленняў і практык, якія спрычыняюцца да дыскрымінацыі, часта ненаўмыснай. Ілюстрацыяй тут можа быць, напрыклад, выпадак пісьменніцы Зосі Косак-Шуцкай, якая выступала супраць нацысцкага генацыду яўрэяў, але пры гэтым пісала, што польская нацыя ёсць пагрозай польскай дзяржаўнасці[46]. Гэта паказвае не толькі тое, што добрыя людзі могуць падзяляць дыскрымінацыйныя ідэі, але і тое, што чалавек можа аднačасова і паспяхова змагацца супраць несправядлівасці, падзяляючы калектыўныя забабоны, а расізм і антырасізм можа спалучацца ў адной і той жа асобе.

Сітуацыя беларусаў Бельгіі з пункту гледжання расіялізацыі характарызуецца фенаменам, апісаным Аннай Сафутай у яе даследаванні стаўлення да ўсходнееўрапейскіх імі-

[38] Солдатова Г.У., Илюхина С.Н. *Киберрасизм как форма киберагрессии: расизм без групп и язык вражды* Сборник статей *« Современный расизм : идеология и практика »*, с. 115-148.

[39] De Meur G., Rinoux B. *L'analyse quali-quantitative comparée. Approche, techniques et applications en sciences humaines.* Louvain-la-Neuve, Academia-Bruylant, 2002.

[40] Мы тут па-за ўвагай пакідаем дыскусійнае ў сучасных навуках пытанне , ці з'яўляецца раса рэальнай, ці гэта абстракцыя, і так ці іначай разглядаем толькі сацыяльныя наступствы бачання ў людзях прадстаўнікоў тых ці іншых расаў, так што кажам хутчэй не пра расу, а пра працэс расалізацыі.

[41] Шнирельман, В.А. *Особенности современного расизма.* Лекция на телеканале «Дождь» 2 ноября 2013. https://tvrain.ru/lite/teleshow/lectures_on_the_rain/osobennosti_sovremennogo_rasiz ma_lektsija_glavnogo_nauchnogo_sotrudnika_instituta_etnologii_i_antropologii_ran_vi ktora_shnirelmana-355872/

[42] Шнирельман В.А. *Порог толерантности. Идеология и практика нового расизма.* В 2-х томах. Новое литературное обозрение, 2011 г

[43] Ramos A., Cicero R.P.. *The impact of biological and cultural racisms on attitudes towards immigrants and immigration public policies.* [in:] Journal of Ethnic and Migration Studies. Volume 46, 2020 - Issue 3: Special Issue: Contested terrain: explaining divergent patterns of public opinion towards immigration within Europe, 2019, p. 574-592.

[44] Hajjat A, Mohammed M. *Islamophobie. Comment les élites françaises fabriquent le « problème musulman ».* La Découverte, 2016.

[45] Jamin J. *Racisme, Islam et langage codé.* [in:] *Politique Revue de débats (dossier : Nouvelles figures du racisme et de l'antiracisme*), janvier-février 2015, p.34-40.

[46] Haaretz (Израиль): *Принцесса, нацист и деревенский чудак. Что заставляло людей рисковать для спасения евреев во время Холокоста.* Иносми РУ, 25 августа 2018 : https://inosmi.ru/20180825/243085940.html Оригинал статьи : https://www.haaretz.co.il/news/education/.premium-MAGAZINE-1.6386683

грантаў у Заходняй Еўропе: нас расіялізуюць як «белых», але пры гэтым успрымаюць як не зусім еўрапейцаў. Гэтая сітуацыя, якую даследчыца называе «перыферычнай беласцю» *(perepherical whiteness)*[47], дае нашым суайчыннікам у Заходняй Еўропе, з аднога боку, некаторыя канкурэнтныя перавагі ў параўнанні з іншымі групамі імігрантаў і расіялізаванымі меньшасцямі (прынамсі, тымі, хто не ўспрымаецца як белыя, напрыклад, афрыканцы і арабы, ці мусульмане і тыя, каго ўспрымаюць як мусульман); але, з іншага боку, ўсходнееўрапейцаў белыя заходнееўрапейцы не ўспрымаюць як роўных сабе, што спрычыняецца да некаторай дыскрымінацыі. Таму датычна еўрапейскага расізму мы часткова самі паспытваем на сабе расізм і ксенафобію, а часткова – далучаючыся да дамінуючай групы (“белых” бельгійцаў) можам праяўляць расізм і ксенафобію ў адносінах да іншых групаў імігрантаў. Цікава, што адна з нашых суразмоўцаў заўважыла спецыфіку сваёй сітуацыі з пункту гледжання расіялізацыі: *“Недастаткова нарадзіцца ў гэтай краіне, каб лічыць сябе – дакладней, каб цябе лічылі – часткай гэтага грамадства... Я не адчуваю праблем з інтэграцыяй, калі казаць пра мяне асабіста. Але гэта напэўна таму, што я выглядаю як бельгійка, ну, умоўна кажучы. Зразумела, што я размаўляю з жахлівым акцэнтам, тут пытанне не ў маёй мове, а напэўна ў тым, як ты выглядаеш і як да цябе людзі ставяцца...”.*

Нашае пілотнае даследванне паказала не толькі наяўнасць у рускамоўным асяроддзі праблемы расізму і антымігранцкае ксенафобіі, але і ўражвальныя маштабы супраціўлення расізму і ксенафобіі. Прычым гэтае супраціўленне арганізаванае ў шэраг наратываў, і ў ім вялікую ролю адыгрывае гумар; у прыватнасці, нярэдкім прадметам антырасісцкіх жартаў, заўважальным ня толькі ў эмігранцкіх групах Бельгіі, але і ўвогуле ў тэкстах эмігрантаў з Расіі, Беларусі і Ўкраіны якія пражываюць ў розных краінах, з’яўляецца ксенафобія, расізм і антыімігранцкія настроі з боку людзей, якія самі з’яўляюцца імігрантамі. Напрыклад, адзін з лідараў беларускай дыяспары ў Бельгіі піша на сваёй старонцы ў Фэйсбуку: *«Панаехаўшы, галасаваць супраць права іншых панаехаўшых – гэта трэба быць розумам паехаўшым!».*

Нарэшце, колькасць каментароў, якія мы вызначылі як «прамігранцкія», нават крыху перавышае колькасць «антымігранцкіх». Прычым жанчыны, паводле нашых дадзеных, меньш схільныя да антымігранцкай ксенафобіі, што ў прынцыпе супадае з дадзенымі вядомых нам заходніх даследванняў (хаця адно бельгійскае даследванне паказала, што, дэманструючы ў агульным меньш ксенафобіі, жанчыны паказваюць больш ісламафобіі)[48].

Ксенафобскія наратывы ў рускамоўным асяроддзі ў 2015-2020, на наш погляд, звязаныя з уплывам расійскіх СМІ: да такой высновы мы прыходзім таму, што актыўнай дыскусіі пра мігрантаў мы не знайшлі ў украінскіх групах, колькасць удзельнікаў якія такая ж вялікая (у некаторых – больш за 10 тысяч), як і ў «рускіх». Пры гэтым у «рускіх» групах прысутнічае і вялікая колькасць украінцаў, і людзей з іншых краінаў былога СССР – таму справа відавочна не ў этнасе, а ў тым, што там прысутнічае аўдыторыя расійскіх СМІ. А прынамсі пуцінскі рэжым[49] у той перыяд быў схільны падтрымліваць у ЕЗ ультраправыя і права-папулісцкія палітычныя партыі і ідэі, і гэта адбівалася і ў дыскурсе расійскіх СМІ. Адзін з прыкладаў – узлёт у 2016-2017 гадах колькасці фэйкаў на тэму міграцыі, а таксама ісламa і мусульман у СМІ, блізкіх да пуцінскага рэжыму[50] [51] [52] .

---

[47] Safuta A. *Fifty shades of white: Eastern Europeans' 'peripheral whiteness' in the context of domestic services provided by migrant women.* [in:] *Tijdschrift voor Genderstudies* 21(3), 2018, p. 217-231 Project: *A Most Comfortable Alterity: the preference for 'peripherally white' migration within Europe on the example of domestic services* : https://www.researchgate.net/publication/327773024_Fifty_shades_of_white_Eastern_Europeans'_'peripheral_whiteness'_in_the_context_of_domestic_services_provided_by _migrant_women

[48] Ponce A., *Gender and Anti-immigrant Attitudes in Europe.* Socius, volume 3, January-December, 2017.

[49] Милов В. *Фашисты Путина*. Выпуск авторской программы «Обнимашки с дидиктаторами» на ютуб-канале автора: https://youtu.be/5qrocyU0DpM

[50] EU Vs DISINFORMATON. Disionfo database https://euvsdisinfo.eu/disinformation-cases/

[51] EU VS DISINFOMATION. Studies and reports. https://euvsdisinfo.eu/reading-list/

[52] Хаця трэба прызнаць, што часам расісцкія і ксенафобскія ідэі выказвалі і рускамоўныя аўтары, якія знаходзіліся ў апазіцыі.

У агульным жа мы зарабілі аптымістычныя высновы, бо ксенафобія і расізм у рускамоўным асяроддзі (у жыцці якога ўдзельнічаюць і беларусы) сустракаюць маштабны супраціў (прынамсі, колькасць «прамігранцкіх» каментароў, якія мы налічылі, перавышае колькасць каментароў «антымігранцкіх»). Гэты супраціў арганізаваны ў шэраг наратываў, і ў ім вялікую ролю адыгрывае гумар, аб'ектам якога часта з'яўляецца парадокс падзялення антымігранцкіх настрояў самімі імігрантамі. Таксама варта адзначыць, што гэты супраціў не арганізаваны звонку (знешняе грамадства ўвогуле зазвычай не ў курсе таго, што адбываецца ў дыяспарах), а ўзнікае ў самім асяроддзі імігрантаў з постсавецкае прасторы.

Паводле дадзеных апытальніка мы ўбачылі сярод беларусаў, украінцаў і расіянаў карціну, якая тыповая і для бельгійскага, і іншых еўрапейскіх грамадстваў: лепшае стаўленне да іміграцыі з краінаў ЕЗ, чым да іміграцыі з нееўрапейскіх краінаў. Таксама цікава, што пазітыўнае стаўленне да іміграцыі карэлюе з пазітыўным стаўленнем да ЕЗ і еўрааптымізмам (нашая выбарка нерэпрэзентатыўная, але яна ўкосна пацверджваецца вынікамі апытання ў групах беларусаў, украінцаў і расіянаў у Нямеччыне і Францыі). Гэта нелагічна, калі ўлічваць тыя дарагія і маштабныя меры, якія зараз прымае ЕЗ, каб не перашкаджаць нееўрапейскім імігрантам пранікаць на сваю тэрыторыю, і якія спрычыняюцца да смерцяў тысячаў мігрантаў; але гэта лагічна ў святле таго, што ЕЗ асацыіруецца са свабодай перамяшчэння, і афіцыйна заяўляе пра каштоўнасць талерантнасці.

Іншай характэрнай рысай постсавецкай ксенафобіі з'яўляецца фенамен яе незалежнасці ад узроўню адукацыі: не толькі ў нашым невялікім апытальніку, але і ў дадзеных WVS бачна, што людзі з вышэйшай адукацыяй у Беларусі і Ўкраіне дэманструюць амаль не меней, а ў Расіі – нават крыху больей антыіміграцыйных меркаванняў, чымсі людзі без вышэйшай адукацыі. Гэта адрозніваецца ад карціны як у Заходняй, так і Ўсходняй Еўропе, дзе ксенафобія і антымігранцкія настроі адваротна карэлююць з узроўнем дыплома. Расійскія даследчыкі тлумачаць гэта праблемамі ў савецкай і постсавецкай навуцы і адукацыі[53 54 55].

Трэба адзначыць, што, паводле аналізаваных намі дадзеных WVS, у краінах былога СССР, якія ўступілі ў ЕЗ ці падпісалі дамову асацыяцыі з ЕЗ, ужо бачная карціна, падобная да звыклай нам на Захадзе: крыху меньш ксенафобіі сярод людзей з вышэйшай адукацыяй; а вось у тых краінах СНД, дзе адсутнічае праеўрапейская палітыка, адукацыя, як выдаецца, зусім не перашкаджае ксенафобіі. Пра падобную праблему ў эмігранцкіх асяродках разважае і Аркадзій Мазін: ён узгадвае, што існуе сацыялагічная анамалія рускамоўных супольнасцяў у Ізраілі і ЗША, якая выражаецца ў нетыповым для грамадстваў гэтых краін спалучэнні высокага ўзроўню адукацыі з распаўсюджанасцю правакансерватыўных поглядаў[56 57].

Разгледжаныя ў пілотным даследаванні ідэі і меркаванні пра іміграцыю, якія цыркулююць сярод імігрантаў з Беларусі, Расіі і Ўкраіны, як і больш вывучаныя ідэі і меркаванні ў заходнееўрапейскіх грамадствах, мы разглядаем як частку кантэксту, у якім развіваюцца ідэі беларусаў, якія жывуць у Бельгіі, датычна іміграцыі.

Пераходзячы да асноўнай часткі нашага даследвання, мы адзначым, што ў выказваннях беларусаў мы знайшлі дастаткова вялікую колькасць сцверджнняў пра пазітыўны ўплыў іміграцыі, прычым як з культурнага, так і з эканамічнага пункту гледжання. Даволі шмат выказванняў пра тое, што іміграцыя – гэта нармальна, напрыклад, што яна *« была, ёсць і будзе».* Ёсць

[53] Абашин С.Н. *Расизм, этнография и образование: вопросы и сомнения.* [в:] Сборник *« Расизм в языке образования »,* под ред. Воронков В., Карпенко О., Осипова А. СПб.: Алетейя, 2008, 258 с., с. 27-47 https://cisr.pro/publications/rasizm-v-yazyke-obrazovaniya/

[54] Карпенко, О. *Обучение «национальным» различиям: «народ» в школьных учебниках обществоведения.* [в:] Сборник « *Расизм в языке образования* », ред. Воронкова В., Карпенко О., Осипова А. СПб.: Алетейя, 2008, 258 с., с. 47-88. https://cisr.pro/publications/rasizm-v-yazyke-obrazovaniya/

[55] Шнирельман В.А. *Советский парадокс: расизм в стране «дружбы народов»?* [в:] Е. Деминцева (ред.) *«Расизм, ксенофобия, дискриминация. Какими мы их увидели…».* Москва, Новое литературное обозрение, 2013, с. 97-114.

[56] Мазин А. *Русскоязычный медиадискурс в США и Израиле.* Участие в дискуссии, организованной «Мораштену», 4 февраля 2021. : https://youtu.be/_rTXPGWyMvU (с 00 ч 01 мин 40 сек по 00 ч 08 мин 00 сек).

[57] Трэба адзначыць, аднак, што ў апошнія гады сярод рускамоўных ізраільцянаў, зноўку насуперак агульнага трэнду, набываюць папулярнасць «левыя» погляды, таму тут могуць быць неўзабаве адкрытыя змяненні. (Гл. выпуск праграмы « Левые мысли » Анны Кац і Аркадзій Мазіна на Ютубе https://youtu.be/4yza4barONM )

шэраг пазітыўных выказванняў пра права на палітычны прытулак, звязванне яго з каштоўнасцямі хрысціянскімі і гуманістычнымі. Некаторыя суразмоўцы кажуць пра тое, што ў Бельгіі зрабіліся больш талерантнымі, пазбавіліся ад ксенафобскіх забабонаў *(«Стаўленне да іншых нацыянальнасцяў вельмі змянілася. Вось гэтыя стэрэатыпы, якія раней у нас былі – ва ўсялякім разе, у мяне, беларускі, якая сюды прыехала… Цяпер я альбо пасталела, альбо сапраўды, паўплывала мультыкультурнае асяроддзе вакол мяне: у мяне вельмі шмат сяброў сярод мусульманаў, сярод розных рэлігій; і чарнаскурыя, і белыя, і бельгійцы, і рускія, і казахі, і чачэнцы… і разумееш, што ўсе мы людзі, і ёсць добрыя людзі, а ёсць дрэнныя людзі, і вось і ўсё…»).*

Сярод шматлікіх тэмаў, бачных у выказваннях беларусаў Бельгіі, асабліва вялізарнае месца займаюць дзьве: працы (і беспрацоўя) і інтэграцыі.

Распаўсюджанае проціпастаўленне «імігрантаў якія не працуюць», якіх абвінавачваюць у злоўжыванні сацыяльнай дапамогай, імігрантам, якія працуюць і робяць, паводле меркавання суразмоўцазў, эканамічны ўнёсак. У гэтым бачная і каштоўнасць працы, і ўяўленне пра неабходнасць рабіць унёсак у дабрабыт краіны. Пры гэтым прасочваецца тэндэнцыя ўскладання адказнасці за беспрацоўе на саміх беспрацоўных.

Наступны падзел – гэта падзел імігрантаў на тых, хто, паводле меркавання суразмоўцаў, інтэгруецца, і тых, хто не інтэгруецца, «жыве ў гета». Тут гучыць матыў неабходнасці павагі да краіны і да яе культуры. Пры гэтым некаторыя беларусы паказваюць такі фенамен, як непакой за культурны воблік Бельгіі, бачанне праблемы ў тым, што іміграны яго мяняюць; некаторыя нават артыкулююць не толькі меркаванне, што імігранты павінныя паважаць і вывучаць мову і культуру краіны, якая іх прыняла, але і што імігранты не павінныя яе мяняць.

Некаторыя рэспандэнты асацыююць беспрацоўе і, паводле іх бачання, нежаданне працаваць і інтэгравацца з пэўнымі этнічнымі і рэлігійнымі групамі (да прыкладу, прыпісваюць гэта туркам, арабам, афрыканцам). Але таксама шмат і крытыкі ў адносінах да суайчыннікаў, беларускіх імігрантаў, як і рускіх, і ўкраінцаў, якія таксама абвінавачваюцца ў нежаданні працаваць і інтэгравацца. З іншага боку, некаторыя рэспандэнты адзначаюць, што ў Бельгіі яны сталі больш талерантна ставіцца да людзей іншай культуры, расы і рэлігіі, часам і да сэксуальных меншасцяў. То бок, асуджэнне тых хто «не працуе» і « жыве на сацыяльную дапамогу», паводле нашага ўражання, распаўсюджанае значна больш, чым негатыўнае стаўленне да нейкіх этнічных і рэлігійных групаў, і нярэдка спалучаецца з пазітыўным бачаннем мультыкультуралізму.

Таксама сярод паўтаральных матываў мы выдзяляем падзел імігрантаў на тых, хто паважае Бельгію і яе законы; і, з іншага боку, тых, хто здзяйсняе правапарушэнні, а таксама падманвае дзяржаву дзеля атрымання сацыяльнае дапамогі. (*“Імігрант, які выконвае законы Бельгіі, не парушае іх, падпарадкоўваецца – ніякіх праблем не стварае, то бок калі чалавек жыве законапаслухмяна. Гэта карысна. А калі надварот... такія ствараюць праблемы для Бельгіі”. “Ёсць іміграцыя, якая станоўча ўплывае на эканоміку і на развіцце краіны. Гэта тычыцца тых людзей, якія сапраўды сюды імігравалі і інтэграваліся ў грамадства... спрабуюць нешта данесці, прынесці, такое вось сваё, актыўную пазіцыю мець па інтэграцыі ў грамадства, адразу шукаюць працу, плацяць падаткі. І, па-другое, я лічу, што шмат ёсць такіх імігрантаў, якія выкарыстоўваюць гэтую сацыяльную сістэму ў сваіх карысных мэтах”).*

Такім чынам, у выказваннях беларусаў Бельгіі бачныя каштоўнасці працы і жадання рабіць унёсак у дабрабыт краіны, інтэграцыі, павагі да краіны іміграцыі, яе культуры і законаў, і бачны пэўны ідэял імігранта – той, які гэта ўсё дэманструе. Гэта так мовіць станоўчы герой, добры імігрант, у якім звычайна суразмоўца наўпрост ці імпліцытна бачыць самога сабе. З іншага боку, гэтак жа выразна вымалёўваецца вобраз антыгероя: дрэнны імігрант, які не хоча працаваць, а хоча толькі жыць на сацыяльную дапамогу, не паважае Бельгію, яе культуру і законы і ня хоча інтэгравацца, а толькі “выкарыстоўвае” Бельгію, здзяйсняе правапарушэнні, а таксама падманвае сістэму, каб атрымліваць сацыяльную дапамогу. І гэты антыгерой, насуперак – гэта заўсёды нехта іншы, але ніколі не сам суразмоўца: *“Многія ідуць тым жа шляхам, што і мы* (суразмоўца кажа пра сабе і свайго мужа – Т.М.) *: праца, інтэграцыя, па-нідэрландску добра размаўляюць, сяброў у іх палова нідэрландамоўныя. Але ёсць і іншая палова – нажаль,*

*большасць – якая не надзяляе дастаткова ўвагі інтэграцыі, жывуць у гета, ім так прасцей, мову не вывучаюць".*

Пры гэтым, згадваючы пра сацыяльную дапамогу, некаторыя рэспандэнты кажуць, што цэняць яе існаванне ў Бельгіі, цэняць тую «упэўненасць у заўтрашнім дні», якую яна дае. *("Мне вельмі падабаецца сацыяльная сістэма. На першых парах яны цябе абавязкова дапамагаюць, і таму ты карыстаешся ўсім магчымым, ну як бы пазітыўна, станоўчымі магчымасцямі гэтага грамадства. Але гэта пэўна на нейкі час, калі ты павінен вывучыць мову, ты павінен зразумець, што ў гэтым грамадстве бярэцца за аснову...").* Пры гэтым часам выказваецца занепакоенасць, што некаторыя гэтай дапамогай злоўжываюць, і выказваюцца думкі наконт таго, як прадухіліць гэтае злоўжыванне. Прынамсі, ёсць падтрымка ідэі абавязковых грамадскіх работ для беспрацоўных, што ёсць прадметам грамадскай дыскусіі ў Фландрыі. То бок, у вялікай колькасці суразмоўцаў ёсць досвед атрымання сацыяльнае дапамогі, але ўсе адзначаюць, што яны правільна ёю распарадзіліся, але ёсць іншыя, хто ёю злоўжываюць. Гэтым апошнім прыпісваецца добрае, камфортнае жыццё за кошт налогаў тых, хто працуе, прынамсі, лепшае, чым у тых хто мае працу. Трэба сказаць, такое бачанне мы сустракалі ў бельгійскім грамадстве і па-за межамі даследвання. Мы прапануем выснову, што гэта ёсць вынікам стрэсу і цяжкіх умоваў працы, абумоўленых, на наш погляд, прынцыпамі сучаснага капіталізму ў Заходняй Еўропе (прынамсі, эканоміяй на колькасці працоўных месцаў і памкнення выкарыстоўваць іх найбольш эфектыўна, што можа прыводзіць да спецыфічных формаў эксплуатацыі).

Калі вяртацца да тэмы расізму, то яго прызнакам робіцца асацыяцыя гэтага антыгероя, іміграната, які не хоча працаваць, інтэгравацца і г.д., з пэўнымі этнічнымі групамі імігрантаў, прынамсі, з расалізаванымі этнічнымі і рэлігійнымі меньшасцямі. Такім чынам, мы тут бачым тэму амаль фаталісцкага бачання ўплыву этнічнай групы. У адваротым жа выпадку, больш антырасісцкага стаўлення, наяўнасць ці адсутнасць матывацыі да працы і інтэграцыі прыпісваецца не паходжанню, а індывідуальнасці – што адпавядае пастулату Эдварда Саіда[58] пра такую рысу расізма, як бачанне членаў расалізаванай групы як аднолькавых – нябачанне іхніх індывідуальных адрозненняў. Тым не меней, нельга лічыць такое бачанне вынікам толькі ксенафобіі, бо для Бельгіі характэрнае больш высокае беспрацоўе сярод імігрантаў, і найбольш высокае – сярод выхадцаў з асобных рэгіёнаў: напрыклад, паводле дадзеных 2015 года, адсотак беспрацоўных сярод імігрантаў быў 17%, у той час як сярод не-імігрантаў ён складаў на той момант 6,8%; пры гэтым 25,1% ён складаў сярод выхадцаў з Магрыбу, 21% – з астатняй Афрыкі. Даследчыкі тлумачаць гэта і праблемамі недастатковай кваліфікацыі часткі імігрантаў, цяжкасцямі з прызнаннем дыпломаў, а таксама дыскрымінацыяй, факты і ўздзеянне якой даказаныя шэрагам даследаванняў[59]. Тым не меней, нярэдка беспрацоўе інтэрпрэтуецца як выбар, а часам і тлумачыцца, прынамсі ў ксенафобскім дыскурсе, асаблівасцямі культуры паходжання.

Тое вялікае месца, якое ў дыскурсе нашых суразмоўцаў пра іміграцыю займаюць тэмы працы і беспрацоўя і інтэграцыі, – таксама паказвае на вызначальны ўплыў не беларускага грамадства, а мясцовага, бельгійскага, з ягонымі дыскурсамі і праблемамі.

Тое, што дыскурс беларусаў пра іміграцыю, падобна, ёсць дыскурсам тыпова бельгійскім – адпавядае даследванням Аіды Джуст і Ларана Лікаты, якія паказваюць, што імігранты, якія доўга пражываюць у краіне і маюць яе грамадзянства, схільныя прымаць той дыскурс пра іміграцыю, які характэрны для грамадстваў краінаў у якіх яны жывуць[60] і нават заўважалі, што грамадзянства краін ЕЗ з'яўляецца прэдыктарам антыімігранцкае ксенафобіі[61].

З іншага боку, мы адзначылі ў часткі суразмоўцаў сцвярджэнніі, якія падаюцца нам маркерамі антырасізму: напрыклад, калі ў кантэксце пазітыўнага ці негатыўнага ўплыву іміграм

[58] Said E. *Culture and imperialism.* Chatto & Windus, 1993.

[59] Marfouk, A. *Préjugés et fausses idées sur l'immigration et les immigrés, vecteurs de discrimination en matière d'accès à l'emploi.* [in:] *Working Paper de l'IWEPS*, vol. 14, 2013, pp. 1-35. : https://www.iweps.be/wpcontent/uploads/2017/02/wp14.pdf

[60] Just A., Anderson Ch. *Dual Allegiances? Immigrants' Attitudes toward Immigration.* [in:] *The Journal of Politics*, volume 77, number 1, january 2015, p. 188-201.

[61] Licata L., Klein O. *Does European citizenship breed xenophobia? European identification as a predictor of intolerance towards immigrants.* [in:] *Journal of Community and Applied Social Psychology,* 12, 2002, p 1-15.

цыі адразу кажуць пра ўзрост і ўзровень адукацыі імігрантаў, а не пра паходжанне *(“Адукацыя, сферы, прафесіі, узрост – вось, гэта ўплывае: хто сюды прыязджае, што яны могуць даць канкрэтна Бельгіі, для эканомікі, для развіцця”*); а таксама – калі нежаданне працаваць і інтэгравацца прыпісваецца і некаторым беларусам (ці таксама ўкраінцам і рускім), а не толькі іншым групам імігрантаў, такім чынам, яно не звязваецца з паходжаннем з расалізаваных меншасцяў *(“...Я магу зрабіць нейкія высновы і на прыкладзе нашых беларускіх імігрантаў, якія карыстаюцца, і зашмат, і шукаюць розныя лазейкі, каб гэтае грамадства трошкі... абабраць”).*

Такім чынам, агульнымі каштоўнасцямі нашых розных суразмоўцаў, незалежна ад нюансаў бачання імі іміграцыі, з’яўляюцца каштоўнасці павагі да краіны іміграцыі, законапаслухмянасці і сумленнай працы на карысць краіны. Таксама імігранты-беларусы падзяляюць перакананне, што трэба інтэгравацца ў грамадства краіны іміграцыі. Апошняе найбольш верагодна ёсць вынікам уплыву грамадства Бельгіі, у якім гэтае перакананне распаўсюджанае – хаця і адбываюцца дыскусіі пра крытэрыі паспяховай інтэграцыі.

Таксама агульнай рысай нашых суразмоўцаў з’яўляецца асэнсаванне працы ці беспрацоўя, а таксама поспеху ў інтэграцыі, як выбару. Гэта пакідае ўражанне ўскладання на імігрантаў адказнасці за іхні сацыяльны поспех.

Усё гэта прыводзіць да высновы, што ў бачанні іміграцыі ёсць складальнік не толькі этнарасавы, але і класавы. Ксенафобія ў адносінах да імігрантаў у масавай свядомасці звязаная не толькі з расалізацыяй і этнічнасцю, але і з класавай прыналежнасцю. І калі з этнічнымі і расавымі забабонамі ў бельгійскім грамадстве вядзецца інстытуцыянальнае змаганне, то з “беднафобіяй”, забабонамі супраць бедных усё складаней. Пра яе, паводле нашага ўражання, размаўляюць меней, хаця, на шчасце, ужо загаварылі, а ў сацыяльных навуках адбываецца вяртанне да бачанння фактару класавай прыналежнасці.

Каштоўнасць працы, якая адкрываецца ў выказваннях нашых суразмоўцаў, рэзаніруе з адкрыццямі Сільвана Бруяра і Вансана Тыберы, якія, вывучаючы каштоўнасці і стаўленні грамадзянаў Францыі турэрэцкага, алжырскага, мараканскага і некаторых іншых афрыканскіх паходжанняў, знайшлі ў іх значна большую, чым у іншых французаў, згоду са сцвярджэннем што “трэба шмат працаваць каб дамагчыся поспеху”, падзяленне імі “культуры поспеху”, насуперак правакансерватыўным стэрэатыпам пра нібы распаўсюджанасць сярод гэтыай групы так званай “культуры асістанату” ды памкнення жыць на сацыяльную дапамогу[62].

Нямала бачым сцвярджэнняў сваёй удзячнасці Бельгіі (“*...мне Бельгія прадставіла ўсё...*”), у тым ліку ўдзячнасці за атрыманую сацыяльную падтрымку і адукацыю, і любові да Бельгіі; як, з іншага боку, стрэсу ў першыя гады іміграцыі, і яго паступовага перадолення. Даволі паўтаральны матыў – тое, як некаторыя рэчы ў мясцовай культуры, якія шакавалі напачатку, зараз падаюцца лагічнымі. Адзначаюць і пазітыўны досвед узаемадзеяння з уладамі (у тым ліку з паліцыяй, чыноўнікамі), і ўвогуле тое, што тут іх даволі добра прымаюць у грамадстве[63]. З іншага боку, некаторыя адзначаюць і закрытасць карэнных бельгійцаў у сваім бліжнім коле, іх негатоўнасць прымаць у яго імігрантаў.

Нярэдка ў размовах выяўляецца тэма бельгійскіх курсаў інтэграцыі для імігрантаў. Некаторыя адзначаюць плюсы гэтай сістэмы, добрую дапамогу ў інтэграцыі. Аднак некаторыя лічаць наяўныя патрабаванні да інтэграцыі недастатковымі: напрыклад, лічаць, што для грамадзянства трэба патрабаваць больш высокі ўзровень валодання мовай. Некаторыя лічаць правільным увядзенне новых, больш строгіх, умоваў атрымання грамадзянства.

Асабліва цікавым сюжэтам нам прадстаўляецца непакой некаторых беларусаў за будучыню Чорнага Піта – фальклорнага персанажа традыцыйных святочных прадстаўленняў, чарнаскурага спадарожніка Святога Міколы, які б’е непаслухмяных дзяцей. Даследчыкамі даказана сувязь гэтай традыцыі з каланіялізмам і расізмам: прынамсі, яна ўзнікла ў Новы час,

[62] Brouard S., Tiberj V. *Français comme les autres ? Enquête sur les citoyens d’origine maghrébine, africaine et turque.* Presses de Sciences Po, 2005.

[63] Дарэчы, гэта цікава было бы параўнаць з уражаннямі імігрантаў з нееўрапейскіх краінаў, асабліва з рэлігійных і расавых меншасцяў : магчыма, нашая сітуацыя, сітуацыя імігрантаў з Усходняй Еўропы, тут больш спрыяльная, у сілу таго што нас успрымаюць як белых.

у каланіяльную эпоху, і звязаная з традыцыяй чорных пажаў[64] [65]. Тым не меней, адмова ад гэтай традыцыі ўспрымаецца часткай бельгійскага грамадства, і ў тым ліку некаторымі беларусамі Бельгіі, як адмова ад бельгійскай традыцыйнай культуры дзеля саступкі імігрантам.

Нечаканае ўзнікненне матываў грамадскае дыскусіі пра Чорнага Піта – гэта яшчэ адно сведчанне, што дыскурс беларусаў Бельгіі пра іміграцыю, гэта дыскурс тыпова бельгійскі, бо Чорны Піт – гэта мясцовая, рэгіянальная тэма дыскусій. Аб гэтым жа – аб вызначальнай ролі мясцовых дыскурсаў – сведчыць і ўзгадванне правых партый (прынамсі, правых фламандскіх лібералаў NVA і ультраправых Vlaams Belang, і ўжыванне іхняга дыскурсу адносна іміграцыі[66]). У Бельгіі менавіта правыя партыі актыўна выкарыстоўваюць тэму іміграцыі ў сваёй рыторыцы[67], а левыя і цэнтрысты хоць выступаюць супраць розных дыскрымінацый, у тым ліку расавай і этнічнай, але збольшага неактыўныя ў распрацоўцы новых прапановаў у іміграцыйнай палітыцы, а часам нават прымаюць пэўныя пастулаты правых. Выключэннем у пэўнай ступені можна назваць ультралевыя PTB-PVDA, якія прапанавалі вяртанне ранейшых, больш мяккіх нормаў для атрымання грамадзянства, і « зялёныя » Ecolo. Таму лагічна, што іншыя партыі (сацыялісты, «зялёныя») хоць і часам узгадваліся, але збольшага не ў сувязі з менавіта іміграцыйнай палітыкай і палітыкай інтэграцыі.

Нарэшце, непакой за Чорнага Піта і за традыцыйную бельгійскую культуру паказвае фенамен адчування «страты культуры», пра які піша Давід Берлінер[68], указваючы на яго ўніверсальнасць. У самых розных народаў, у самых розных рэгіёнах узнікае адчуванне настальгіі па культуры, якая нібы знікае, прычым гэта тычыцца як сваёй культуры, так і іншых, чужых культур. Апошняе здараецца ў турыстаў, якія недзе ў Шры-Ланцы адчуваюць, што бачаць апошнія праявы традыцыйнае культуры; ці ў антраполагаў, якія ў мінулых стагоддзях вывучалі «дзікія» плямёны, лічачы сабе апошнімі сведкамі іхняй культуры, якая знікае, хаця, як паказала далейшае развіццё гэтых грамадстваў, песімізм часта не апраўдваўся, мясцовая культура і рытуалы, якія яны апісвалі, існуюць і развіваюцца і дагэтуль. Берлінер указвае, што часам адчуванне настальгіі можа спалучацца і з антыімігранцкімі настроямі і адчуваннем імігрантаў як пагрозы для мясцовай традыцыйнай культуры. Гэта мы бачым і ў некаторых імігрантаў-беларусаў, якія непакояцца за бельгійскую культуру: *«...Я бачу, як усё больш і больш робіцца імігрантаў, і як Бельгія мяняе свае законы паводле іхніх патрабаванняў. Хаця б вось гэтыя Чорныя Піты на Sint-Niklaas – то-бок, Бельгія мяняе сваю культуру, сваю спадчыну гістарычную... так можна згубіць сваю аўтэнтычнасць...» ; «Каталіцкая царква была адной з асноваў культуры Еўропы. Цяпер плынь людзей іншай веры гэта паступова замыльвае, размывае... Народ паступова губляе сувязь са сваімі каранямі. Раней былі пасхальныя вакацыі, цяпер яны завуцца папросту вясновымі. Таксама тут замест Дзеда Мароза – Сант-Нікаля, і раней з ім быў Père Fouettard, і ён быў чорнага колеру, а цяпер кажуць, што гэта расізм. Гэта базавыя рэчы, тое, на чым раней раслі - а цяпер культура губляецца».*

У гэтым моманце мы павінныя адзначыць, што, хоць тут ідзе апеляцыя да каталіцкіх традыцый, у некаторых іншых суразмоўцаў, у тым ліку тых, хто якраз ёсць практыкуючымі хрысціянамі, рэлігійныя апеляцыі, насуперак, звязаныя з каштоўнасцямі адкрытасці да імігрантаў, як з пункту гледжання каштоўнасцей свабоды, дэмакратыі, гуманнасці і права на палітычны прытулак, так і з пункту гледжання ўзаемадзеяння розных рэлігій: *«Я, безумоўна, з хрысціянскага, з біблейскага пункту гледжання, лічу пытанне іміграцыі вельмі важным... каб імігранты паўсюль атрымлівалі належную ўвагу і рэспект: права на жыццё, біблейскае та-*

---

[64] Robert M.-T. *Blackface : au chevet du privilège blanc. L'impact du Père Fouettard sur les enfants afro-belges.* [in:] *Tumultes* 54 (1), 2020, p. 137-51.

[65] Lallemard C. *La véritable histoire du Père Fouettard.* [in:] *Le Vif* (Le Vif/l'explress), 21 novembre 2019. : https://www.levif.be/belgique/la-veritable-histoire-du-pere-fouettard/

[66] Verbeek L. *Het immigratiediscours van Vlaamse politieke partijen in de nieuwsmedia: een kwantitatieve inhoudsanalyse van 2009 tot 2014.* (Магістарская работа), KU Leuven, 2016.

[67] De Conninck D., Matthijs K.M., Joris W, De Cock R., D'Haenens L. *The relationship between media use and public opinion on immigrants and refugees: A Belgian perspective.* Communications. [in:] *The European Journal of Communication Research.* Ed. Averbeek-Lietz S., D'Haenens L. Déguster, 2018.

[68] Berliner D. *Perdre sa culture.* Zones sensibles, 2018.

*кое – гэта ў кнізе Выхаду гаворыцца: «Прыхадня не крыўдзі...» «... Чалавек – адна з вышэйшых каштоўнасцяў, яго правы – вышэйшая каштоўнасць. Гэта з хрысціянскага светапогляду...».* Такім чынам, успрыманне хрысціянскіх каштоўнасцяў у розных суразмоўцаў рознае.

А вяртаючыся да сюжэту Чорнага Піта – непакой за яго добра ілюструе супярэчлівасці бачання тэмы інтэграцыі імігрантаў (ці этнічных і рэльгійных меньшасцяў, вымушаныя мы дадаць, бо, хоць тут у выказваннях мільгае апрыёрнае успрыманне чарнаскурага насельніцтва Бельгіі як імігрантаў – насамрэч вялікая частка яго нарадзілася ў Бельгіі, так што не з'яўляецца імігрантамі). У масавай свядомасці бельгійскага грамадства поспехам інтэргграцыі імігрантаў лічыцца засваенне і прыняцце мясцовай культуры[69]. Пры гэтым рэальны ці ўяўны ўплыў культуры краіны пахожджання часам успрымаецца як праблема. Такі падыход падзяляюць і некаторыя беларусы Бельгіі: у прамовах некалькіх нашых суразмоўцаў прагучала прыказка *«в чужой монастырь со своим уставом не ходят»* ; адна з удзельніц характэрна адзначыла, што *«...трэба вывучыць мову і прыняць культуру краіны, у якую прыехалі – усю, без выключэння. Можна прыносіць і сваю культуру, традыцыі – але не мяняць тое што ёсць».* Аднак жа з аднога боку, не ўсё ў мясцовай культуры добрае і вартае засваення, часам, як мы бачым, засвойваюцца і забабоны з мясцовай культуры. Прыклады інтэргграцыі са знакам мінус могуць быць розныя: ад празмернага ўжывання піва ў Бельгіі да інтэргграцыі ў мясцовыя злачынныя групоўкі. З другога боку лагічна, што якраз некаторыя практыкі культуры краіны эміграцыі вартыя «імпартавання» : напрыклад, на наш погляд, у постсавецкіх імігрантаў гэта выкшталцоная савецкай гігіенай звычка заўседы мыць рукі перад ежай і пасля вуліцы, ці звычка саступаць месца пажылым у транспарце (што, паводле маіх прафанных назіранняў, часцей за ўсё робяць маладыя жанчыны афрыканскага і арабскага паходжання, зноўку ж, не магу сказаць, хто з іх імігрантка а хто не, але можна зрабіць меркаванне пра ўплыў культураў паходжання).

Нам складана вызначыць магчымы беларускі ўплыў на дыскурс пра іміграцыю. Супастаўленне вялікіх дадзеных наконт адкрытасці ці ксенафобіі ў адносінах да іміграцыі ў Беларусі і ў краінах Заходняе Еўропы – тэма занадта вялікая і супярэчлівая для ахопу тут; але адзначым, што хоць беларуская талерантнасць крытыкуецца даследчыкамі як міф,[70] [71] сярод цікавых дадзеных на яе карысць было знаходжанне двух рэгіенаў Беларусі, а менавіта Брэсцкай і Магілеўскай вобласцяў, у ліку чэмпіенаў свету па адсутнасці расізму згодна з дадзенымі папярэдняй, шостай, хвалі World Values Survey; гэта цяжка інтэрпрэтаваць у плане магчымых уплываў сёння на беларусаў у Беларусі і ў замежжы, але мы лічым важным адзначыць гэты цікавы факт.

Але найболш цікавым для нас уплывам грамадства краіны паходжання з'яўляецца выразная каштоўнасць дэмакратыі ў многіх нашых суразмоўцаў.

Пра важнасць дэмакратыі беларусы кажуць уадметных выразах : *«Дэмакратыя – гэта аснова асноў, і я лічу, што ў кожнай краіне трэба за яе змагацца», «У дэмакратыі ўратаванне, мне здаецца. Вось я слухаю Чалага... і з ягонага пункту гледжання дэмакратыя ўсеж перамагае. Вось. У нас усіх ёсць шанец выжыць!».* Некалькі суразмоўцаў тут цытуюць вядомае выказванне Чэрчыля.

Лагічна для нас, беларусаў, але пры гэтым можа быць нечакана для іншых прадстаўнікоў бельгійскага грамадства тое, як відавочна ва ўсведамленні каштоўнасці дэмакратыі дапамагаюць параўнанні палітычных рэаліяў Бельгіі і Беларусі, прынамсі спазнаная на практыцы сітуацыя са свабодай слова і свабодай сходаў *«Дэмакратыя ў Бельгіі вельмі развітая, мне здаецца, вельмі ўсё так добра арганізавана: ледзь што, адразу пратэсты, пікеты, усе так хуценька чагосьці дамагаюцца»,* а таксама досвед удзела ў пратэстах 2020 года, якія частка суразмоўцаў узгадваюць як свой момант набыцця інтарэсу да палітыкі, ці вяртання да яе. *«Дэмакра-*

---

[69] Roblain A., Assas A., Licata L. *Why do majority members prefer immigrants who adopt the host culture? The role of perceived identification with the host nation.* [in:] *International Journal of Intercultural Relations,* volume 55, November 2016, pages 44-54.

[70] Михайлова Н. Белорусы совсем не толерантные. Итоги исследования. Сайт беларусских исследований Thinktanks.by , 4 февраля 2022. https://thinktanks.by/publication/2022/02/04/belorusy-sovsem-ne-tolerantnye-itogi-issledovaniya.html

[71] Николюк, С. *Толерантность беларусов: миф и реальность.* Belarus Security Blog, 28 janvier 2015. : https://bsblog.info/tolerantnost-belarusov-mif-i-realnost/

*тыя… я з ёй сутыкнулася, напэўна, у Бельгіі: за жыццё ў Беларусі я ня ведала, як яна працуе. Калі казаць пра параўнанне, то паміж Беларуссю і Бельгіяй вялікая розніца. Нават калі банальна паглядзець на пратэсты. У Беларусі пратэстоўцы палохаюцца паліцыі. А тут паліцыя іх ахоўвае… Тут свабода слова, свабода меркаванняў… Яны (*палітычныя погляды суразмоўцы – Т.М.) *змяніліся, напэўна, не ў сувязі з жыццём у Бельгіі, а ў сувязі з падзеямі ў Беларусі. Калі я з'язжала, да пэўнага моманту, я…. не цікавілася палітыкай. Але калі пачаўся кавід, і ўсё было вельмі дрэнна, я стала падыходзіць да палітыкі бліжэй і бліжэй. Потым пачаўся жнівень, і ў сувязі з падзеямі ў Беларусі я пачала больш цікавіцца палітыкай, узнікла жаданне нешта рабіць, нешта змяняць. На гэта паўплывалі ўсе тыя падзеі, якія адбываліся ў Беларусі» ; « Дэмакратыя ў Бельгіі – гэта для мяне, пасля Беларусі, канешне – ваў!.. Тут прыслухоўваюцца да меркавання людзей… Я не буду параўноўваць гэта з Беларуссю, дзе… баішся, ці не пасадзяць табе на 15 сутак. Тут дэмакратыя – гэта не пустое слова, гэта адчувакцца».*

Пры гэтым непакой некаторых беларусаў выклікаюць недасканаласці дэмакратыі і пагрозы для яе.

Канешне, частка нашых суразмоўцаў выказвала і скептычныя думкі наконт дэмакратыі: *«Няма такога тут. Я думаю, што ў Беларусі больш дэмакратыі, чым тут… Яны нібыта змагары за свабоду слова, за дэмакратыю, але гэта толькі на словах»*). Таксама нашыя суразмоўцы абраныя з вялікай часткі беларускай супольнасці, актыўнай у дыяспары, што відавочна можа ўплываць на вынікі даследавання. Тым не меней, паўтаральнасць матываў, разам з фактам прыналежнасці часткі суразмоўцаў да супольнасці, якая праяўляе палітычную актыўнасць у якасці менавіта беларускай дыспары, на наш погляд, надае гэтай тэзе сацыялагічнай значнасці.

Такім чынам, мы назіраем парадокс: уплыў грамадства краіны эміграцыі з жорстка аўтарытарным і рэпрэсіўным рэжымам не толькі не перашкаджае разуменню каштоўнасці дэмакратыі, але і дапамагае яму. Тэарэтычна можна было б меркаваць, што выхадцы з краінаў з аўтарытарнымі рэжымамі могуць меньш падзяляць каштоўнасці дэмакратыі. Гэта паказвае, наколькі нечаканымі могуць быць разнастайныя уплывы грамадстваў краінаў паходжання.

Дарэчы, калі пагдядзець на вялікія дадзеныя двух краінаў, то ў Беларусі адказ на пытанне «Наколькі для вас важна, каб вашая краіна кіравалася дэмакратычна» сярэдні адказ у 2019 годзе быў 8,01, павялічыўшыся ў параўнаніі з 7,48 у 2011 годзе ; што тычыцца ж Бельгіі, сярэдні адказ у 2012 годзе быў 8,01 а дадзеныя пазнейшых даследванняў яшчэ не апрацаваныя. Да таго ж, у гэтай сферы бываюць розныя нечаканасці: напрыклад, у Зімбабвэ сярэдні адказ быў 9,1, што вышэй, напрыклад, чым у ЗША (8,28) і Францыі (8,61). Такім чынам, каштоўнасці людзей з розных краінаў часам могуць не адпавядаць стэрэатыпам (напрыклад, словы « Афрыка » і « Зімбабвэ » нам даводзілася чуць у СМІ у якасці метафары адсталасці ці недэмакратычнасці), і гэта вучыць нас разумець складанасць кантэкстаў розных краінаў і рэгіенаў.

Што тычыцца поглядаў на Еўразвяз, то тут у многіх нашых суразмоўцаў мы бачым еўрааптымістычныя спадзевы і прыхільнасці, выражаныя ў такіх яскравых выразах: «*Тое, што Еўразвяз з'явіўся, я лічу вялікім дасягненнем гэтага грамадства, еўрапейцаў, якія склалі такі моцны саюз, і рухаюцца ў добрым накірунку».* Хаця і крытычнасць да ЕЗ, і еўраскептыцызм (у аднаго з суразмоўцаў) таксама сустракаецца. Але еўрааптымізм і станоўчыя ацэнкі Еўразвяза, паводле нашага ўражання, прадстаўленыя больш выразна. Нават тыя, хто крытычна і ў пэўнай ступені скептычна ставіцца да ЕЗ, усё адно указваюць, што Еўразвяз ствараўся з першапачаткова добрымі ідэямі. Наконт еўрааптымізму нам больш цяжка вызначыць, ці звязаны ён з нейкім спецыфічна беларускім досведам, з уплывам грамадства Беларусі ці з эміграцыяй з Беларусі. Тым не менен, пазітыўныя стаўленні многіх суразмоўцаў да ЕЗ, разам з каштоўнасцю дэмакратыі, выклікаюць у нас гонар за беларускую супольнасць, а таксама паказваюць тыя пазітыўныя каштоўнасці, якім беларусы могуць узбагачаць Бельгію.

Падсумоўваючы інфармацыю, мы робім наступныя высновы. Берарусы Бельгіі лічаць, што імігранты павінныя паважаць краіну іміграцыі, яе культуру і законы, і працаваць на яе карысць, а таксама інтэгравацца ў мясцовую культуру. Сярод беларусаў Бельгіі ёсць як праблема ксенафобіі ў адносінах да іншых імігрантаў, так і супраціўленне ксенафобіі і пазітыўнае бачанне іміграцыі і іншых меньшасцяў; і тое, і тое ў беларусаў Бельгіі агульнае з бельгійскім грамадствам увогуле. Асаблівасцю ксенафобіі выхадцаў з Беларусі можа быць спалучэнне яе

з вышэйшай адукацыяй. У рускамоўных асяродках Бельгіі, у склад якой уваходзіць і частка беларусаў, у мінулыя гады назіраліся ўплывы рускамоўных СМІ, прынамсі, у дыскурсе «міграцыйнага крызісу». Але ў агульным беларусы Бельгіі ў сваіх разнастайных поглядах на іміграцыю, калі меркаваць па нашых суразмоўцах, збольшага адаптуюць мясцовыя дыскурсы на гэтую тэму. Але пры тым існуе ўсведамленне каштоўнасці дэмакратыі, што звязана з досведам змагання за дэмакратыю ў Беларусі, прынамсі палітызацыі падчас выбараў і пратэстаў 2020 года[72] [73]. У сувязі з гэтым мы робім гіпотэзу, што на погляды, на стаўленні і каштоўнасці імігрантаў збольшага ўплывае грамадства краіны пражывання, але з адным выключэннем: калі нейкія тэмы робяцца асабліва актуальнымі і дыскутаванымі ў грамадстве краіны паходжання, як гэта выйшла з тэмай дэмакратыі ў кантэксце беларускіх выбараў і пратэстаў 2020 года; магчыма, іншым прыкладам ёсць дыскурс «міграцыйнага крызісу» з адаптаваннем ультраправых наратываў у рускамоўных асяродках у 2015-2018 гг. Пры чым уплывы краіны іміграцыі і краіны эміграцыі могуць быць дастаткова непрадказальнымі, як пазітыўнымі, так і негатыўнымі з тых ці іншых пазіцый.

У святле ўсяго гэтага перспектыўнымі шляхамі развіцця беларускае дыяспары ў Бельгіі з'яўляецца наш магчымы удзел у папулярызацыі каштоўнасці дэмакратыі, пры ўзаемадзеянні як з бельгійскім грамадствам у агульным, так і з іншымі дыяспарамі, у рамках абмену досведам змагання за свабоду і дэмакратыю. Таксама мы заўважылі, што варта развіваць беларускую супольнасць у Валоніі, бо яна пакуль што развітая збольшага ў Фландрыі і Брусэлі.

Нарэшце, з іншага боку, мы прыйшлі да высновы, што дзеля паспяховага змагання супраць ксенафобіі патрэбная асветніцкая праца не толькі па тэме расізма, але і па тэме класавых забабонаў і стэрэатыпаў пра бедных. І, галоўнае, для паспяховага перадолення забабонаў і дыскрымінацый патрэбнае вырашэнне праблемаў у сферы працаўладкавання. Прычым тут не абавязкова, на наш погляд, неяк «матываваць» людзей (мы згодныя адной з нашых суразмоўцаў у яе сцверджанні, што *«большасць людзей хоча працаваць; большасць людзей ня хоча сядзець на шыі ў дзяржавы»*); але патрэбныя новыя рашэнні праблемаў, звязаных і з беспрацоўем, і з умовамі працы і якасцю жыцця працоўных.

***Бібліяграфія***

*Асноўныя крыніцы (манаграфіі і артыкулы ў навуковых выданнях)*


Абашин С.Н. *Расизм, этнография и образование: вопросы и сомнения.* [в:] Сборник *« Расизм в языке образования »,* под ред. Воронкова В., Карпенко О., Осипова А. СПб.: Алетейя, 2008, 258 с., с. 27-47 https://cisr.pro/publications/rasizm-v-yazyke-obrazovaniya/

*Attitudes towards Immigration and their Antecedents: Topline Results from Round 7 of the European Social Survey, 2016.* ESS Topline Results (7), nomembre 2016. Published by the European Social Survey ERIC % Centre for Comparative Social Surveys City, University of London. www.europeansocialsurvey.org

Белановский С.А. *Глубокое интервью и фокус-группы.* Часть 2. *Индивидуальное глубокое интервью*. Москва, 2019 (4-е издание), 372 с.

Berliner D. *Perdre sa culture.* Zones sensibles, 2018, 160 p.

Boomgaarde H.G., Schuck A.R.T., Elenbaas M., De Vreese C.H. *Mapping EU attitudes: Conceptual and empirical dimensions of Euroscepticism and EU support.* [in:] *EUP* (European Union Politics), 12 (2), 2011, p. 241-266. Reprints and permissions: sagepub.co.uk/journals

Brouard S., Tiberj V. *Français comme les autres ? Enquête sur les citoyens d'origine maghrébine, africaine et turque.* Presses de Sciences Po, 2005, 157 p.

De Cleen B., Zienkoswski J., Smets K., Dekie A, Vandevoordt R. *Constructing the 'Refugee Crisis' in Flanders. Continuities and adaptations of discourses on Asylum and Migration.* [in:] Barlai, M., Fähnrich, B., Griessler,C., and Rhomberg, M. (eds.), *The migrant crisis: European perspectives and national discourses.* Berlin: LIT Verlag, 2017, p. 59-78.

De Conninck D., Matthijs K.M., Joris W, De Cock R., D'Haenens L. *The relationship between media use and public opinion on immigrants and refugees: A Belgian perspective.* Communications. The European Journal of Communication Research. Ed. Averbeek-Lietz S., D'Haenens L. Déguster, 2018.


[72] Pierson-Lyzina, E. *Bélarus : après la mobilisation, qu'attendre du lendemain électoral ?* [in:] *Regard sur l'Est*, 9 août 2020. : http://regard-est.com/belarus-apres-lamobilisation-quattendre-du-lendemain-electoral?fbclid=IwAR3a7yaX-5NCmnA_ZwHjEZrrIHTbMyjbiEl-SITDstiT8UMv7KI7EaCNhq8

[73] Pierson-Lyzina, E. *The deeper causes of Belarusian popular mobilisation.* [in:] *Progressive Post*, 4 December 2020. : https://progressivepost.eu/the-deeper-causes-ofbelarusian-popular-mobilisation/

De Meur G., Rinoux B. *L'analyse quali-quantitative comparée. Approche, techniques et applications en sciences humaines.* Louvain-la-Neuve, Academia-Bruylant, 2002, 176 p.

Deleersnijder H, De Coorebyter, V. *Dis, c'est quoi le populisme ?* Bruxelles, Tournai, Waterloo... : Renaissance du livre. 2017, 85 p.

Gemenne F. *On a tous un ami noir. Pour en finir avec les polémiques stériles sur la migration.* Fayard, Paris, 2020, 256 p.

Hajjat A, Mohammed M. *Islamophobie. Comment les élites françaises fabriquent le « problème musulman ».* La Découverte, 2016, 328 p.

Hut E. *«I know I belong to a kind of migration that is perceived [to be] less problematic, but still, I am [a migrant]! » Migrant self-identification and empathy amongst Italian, Greek and Turkish (privileged) migrants in Brussels.* Working paper (Draft 31.03.2021), Annual Convention 2022. https://orbi.uliege.be/handle/2268/265903

Hut E. *Navigating Brussels' "bubble(s)". Privileged migrants' perceptions of (super)diversity in the EU capital and its implications on migrant othering and solidarity*. Séminaire doctoral « Migrations et Diversité culturelle », Liège, 2021.

Hut E., Zickgaf C., Gemenne F., Castillo Betancourt T., Ozer P., Le Flour C. *COVID-19, Climate Change and Migration: Constructing Crises, Reinforcing Borders. Environmantal migration portal,* 2020. https://environmentalmigration.iom.int/blogs/covid-19-climate-change-and-migrationconstructing-crises-reinforcing-borders

Jacobs L., Wuyts C., Loosveldt G. *Public opinion about migration in Belgium : continuity or change ? (2002-2014). An overview of the results of the European Social Survey (ESS) in Belgium,* 2015 http://www.europeansocialsurvey.org

Jamin J. *Racisme, Islam et langage codé.* Politique Revue de débats (dossier : Nouvelles figures du racisme et de l'antiracisme), janvier-février 2015, p.34-40.

Just A., Anderson Ch. *Dual Allegiances? Immigrants' Attitudes toward Immigration.* [in:] *The Journal of Politics*, volume 77, number 1, january 2015, p. 188-201.

Карпенко, О. *Обучение «национальным» различиям: «народ» в школьных учебниках обществоведения.* [в:] Сборник *« Расизм в языке образования »*, ред. Воронкова В., Карпенко О., Осипова А. СПб.: Алетейя, 2008, 258 с., с. 47-88. https://cisr.pro/publications/rasizm-v-yazyke-obrazovaniya/

Kukathas Ch. *Immigration and Freedom.* Princeton University Press, 2021, 360 p.

Lafleur J.-M., Marfouk A. *Pourquoi l'immigration? 21 questuions que se posent les Belges sur les migrations internationales aux XXI ciecle.* Ed. Academia, 2017, 135 p.

Licata L., Klein O. *Does European citizenship breed xenophobia? European identification as a predictor of intolerance towards immigrants.* Journal of Community and Applied Social Psychology, 12, 2002, p 1-15.

Marfouk, A. *Préjugés et fausses idées sur l'immigration et les immigrés, vecteurs de discrimination en matière d'accès à l'emploi.* Working Paper de l'IWEPS, vol. 14, 2013, pp. 1-35. https://www.iweps.be/wpcontent/uploads/2017/02/wp14.pdf .

Meuleman B, Abts K, Slootmaeckers K, Meeusen C. *Mobilizations and Opinions Regarding Asylum Seekers, Refugees and Undocumented Migrants in Belgium : Frames, Motivations and Actions* par Mescoli, E., Reidsma, M., Diels, E., Hondeghem, A., Mazzola, A., Roblain, A., Rea, A., Martiniello, M., Meuleman, B. *The Refugee Reception Crisis in Europe. Polarized Opinions and Mobilizations, Editions de l'Université de Bruxelles,* Bruxelles, 2019, pages 171-224

*Migration, social polarization, citizenship, and multiculturalism. The Global State of Democracy Exploring Democracy's Resilience*, chapitre 7, pages 202-247, International Institute for Democracy and Électoral Assistance (IDEA), First Edition, 2017. https://www.idea.int/gsod-2017/index.html#chapter-7

Ponce A., *Gender and Anti-immigrant Attitudes in Europe*. [in:] *Socius*, volume 3, January-December, 2017.

Ramos A., Cicero R.P.. *The impact of biological and cultural racisms on attitudes towards immigrants and immigration public policies.* [in:]Journal of Ethnic and Migration Studies. Volume 46, 2020 - Issue 3: Special Issue: Contested terrain: explaining divergent patterns of public opinion towards immigration within Europe, 2019, p. 574-592.

Rea A., *Socilogie d'immigration.* Troisième édition. La Découverte, 2021, 128 p.

Robert M.-T. *Blackface : au chevet du privilège blanc. L'impact du Père Fouettard sur les enfants afro-belges.* Tumultes 54 (1), 2020, p. 137-51.

Roblain A., Green E.G.T. *From perceived polarization of immigration attitudes to collective action.* [in:] *International journal of intercultural relations*. Volume 80, January 2021, p.112-120

Roblain A., Assas A., Licata L. *Why do majority members prefer immigrants who adopt the host culture? The role of perceived identification with the host nation.* [in:] *International Journal of Intercultural Relations*, volume 55, November 2016, pages 44-54.

Safuta A. *Fifty shades of white: Eastern Europeans' 'peripheral whiteness' in the context of domestic services provided by migrant women.* Tijdschrift voor Genderstudies 21(3), 2018, p. 217-231 Project: *A Most Comfortable Alterity: the preference for 'peripherally white' migration within Europe on the example of domestic services* https://www.researchgate.net/publication/327773024_Fifty_shades_of_white_Eastern_Europeans'_'peripheral_whiteness'_in_the_context_of_domestic_services_provided_by _migrant_women

Said E. *Culture and imperialism.* Chatto & Windus, 1993, 440 p.

Шнирельман В.А. *Порог толерантности. Идеология и практика нового расизма.* В 2-х томах. Новое литературное обозрение, 2011 г., 576 с.

Шнирельман В.А. *Советский парадокс: расизм в стране «дружбы народов»?* [в:] Е. Деминцева (ред.) *«Расизм, ксенофобия, дискриминация. Какими мы их увидели…».* Москва, Новое литературное обозрение, 2013, с. 97-114.

Солдатова Г.У., Илюхина С.Н. *Киберрасизм как форма киберагрессии: расизм без групп и язык вражды* Сборник статей *« Современный расизм : идеология и практика ».* Московский экономический институт ; Институт этнологии и антропологии имени Н.Н. Миклухо-Маклая, Москва, 2022, с. 115-148.

Stockemer D., Niemann A., Unger D. *The "Refugee Crisis," Immigration Attitudes, and Euroscepticism.* European Union Politics. 12(2), p. 241–26. Octobres 23, 2019.

Тарайкевич, М.Л. *Расизм и борьба за толерантность в среде эмигрантов из России, Беларуси и Украины, живущих в Бельгии.* [в:] Сборник статей *« Современный расизм : идеология и практика ».* Московский экономический институт ; Институт этнологии и антропологии имени Н.Н. Миклухо-Маклая, Москва, 2022, с. 235-272.

*The Refugee Reception Crisis in Europe. Polarized Opinions and Mobilizations*. (Le livre de la confèrence) Éditions de l'Université de Bruxelles, ed. A. Rea, M. Martiniello, A. Mazzola, B. Meuleman, 2019, 256 p. https://www.editions-ulb.be/en/book/?gcoi=74530100528740 , http://library.oapen.org/handle/20.500.12657/24581

Van Haute E., Roblain A., Hanioti M., Paulis E. *The Social Network of Solidarity With Migrants: The role of perceived injunctive norms on intergroup helping behaviors,*[in:] *European Journal of Social Psychology*, volume 50, issue 6, 2020, p. 1306-1317.

Verbeek L. *Het immigratiediscours van Vlaamse politieke partijen in de nieuwsmedia: een kwantitatieve inhoudsanalyse van 2009 tot 2014*. (Магістарская работа), KU Leuven, 2016.

Vozna A. 2022. *How Do Immigrants From the Post-Soviet Countries Interact With the Race and Indigeneity Discourses in Canada?* The conference *ASN Annual World Convention,* Panel M9, *Integration and Othering.* 2022. https://www.asnconvention.com/panelm9

### *Дадатковыя крыніцы (артыкулы і іншыя тэксты ў смі)*

Анипкин, М. *Что такое глубинное (качественное) интервью ?* Блог автора : https://youtu.be/EK2hdvVGbDc , 2018.

Анипкин М. *Количественные vs качественные методы в социологическом исследовании?* Блог автора https://youtu.be/VNID3OUmQLc , 2018.

Gemenne F. *Septante minutes avec François Gemenne – Justice Migratoire.* Série des podcasts « J'aime bien quand tu parles ».: https://youtu.be/LKcj7LzApFg , 2020.

Haaretz (Израиль): Принцесса, нацист и деревенский чудак. Что заставляло людей рисковать для спасения евреев во время Холокоста. Иносми РУ, 25 августа 2018 :https://inosmi.ru/20180825/243085940.html Оригинал статьи : https://www.haaretz.co.il/news/education/.premium-MAGAZINE-1.6386683

Кукатас, Ч. *Иммиграция и свобода.* Основной доклад на конференции Национального студенческого союза (международная секция), Милтон Кейнс, 24 апреля 2013 года. : https://old.inliberty.ru/library/575-immigraciya-inbspsvoboda

Lallemard C. *La véritable histoire du Père Fouettard.* Le Vif (Le Vif/l'explress), 21 novembre 2019.: https://www.levif.be/belgique/la-veritable-histoire-du-pere-fouettard/

Mazin A. *The Russian Paradox.* Peace Cast #125, the 3d of Mai, at the Amercian for Peace Now. : https://peacenow.libsyn.com/125-the-russian-paradox , 2020.

Мазин А. *Русскоязычный медиадискурс в США и Израиле.* Участие в дискуссии, организованной «Мораштену», 4 февраля 2021. https://youtu.be/_rTXPGWyMvU (с 00 ч 01 мин 40 сек по 00 ч 08 мин 00 сек).

Михайлова Н. Белорусы совсем не толерантные. Итоги исследования. Сайт беларусских исследований Thinktanks.by , 4 февраля 2022. [Электронный ресурс] https://thinktanks.by/publication/2022/02/04/belorusy-sovsem-ne-tolerantnye-itogi-issledovaniya.html

Милов В. *Фашисты Путина*. Выпуск авторской программы «Обнимашки с дидиктаторами» на ютуб-канале автора [Электронный ресурс] https://youtu.be/5qrocyU0DpM

Николюк, С. *Толерантность беларусов: миф и реальность.* Belarus Security Blog, 28 janvier 2015. [Электронный ресурс] https://bsblog.info/tolerantnost-belarusov-mif-i-realnost/

Pierson-Lyzina, E. *Bélarus : après la mobilisation, qu'attendre du lendemain électoral ?* Regard sur l'Est, 9 août 2020. [La ressource électronique] http://regard-est.com/belarus-apres-lamobilisation-quattendre-du-lendemain-electoral?fbclid=IwAR3a7yaX5NCmnA_ZwHjEZrrIHTbMyjbiEl-SITDstiT8UMv7KI7EaCNhq8

Pierson-Lyzina, E. *The deeper causes of Belarusian popular mobilisation.* Progressive Post, 4 December 2020. [Electronic resource] https://progressivepost.eu/the-deeper-causes-ofbelarusian-popular-mobilisation/

Тарайкевич М.Л. *Расизм и толерантность мигрантов из СНГ.* Русскоязычный израильский портал «РеЛевант», апрель meul2020. [Электронный ресурс] Часть 1 https://www.relevantinfo.co.il/racism-and-tolerance1/ , часть 2 https://www.relevantinfo.co.il/racism-and-tolerance-2/

Torrekens C. *Septante minutes avec Corinne Torrekens – La sociologie des musulmans.* Série des podcasts « J'aime bien quand tu parles », 2020 [La ressource électronique] https://youtu.be/uPVDObXvyiI

Шнирельман, В.А. *Особенности современного расизма.* Лекция на телеканале «Дождь» 2 ноября2013. : https://tvrain.ru/lite/teleshow/lectures_on_the_rain/osobennosti_sovremennogo_rasizma_lektsija_glavnogo_nauchnogo_sotrudnika_instituta_etnologii_i_antropologii_ran_vi ktora_shnirelmana-355872/

*Базы дадзеных :*

EUROSTAT https://ec.europa.eu/eurostat/web/main/data/database

STATBEL https://statbel.fgov.be/fr/propos-de-statbel/nos-partenaires/eurostat

EUROPEAN SOCIAL SURVEY (ESS) https://www.europeansocialsurvey.org/data/

Europeans' Understandings and Evaluations of Democracy: Topline Results from Round 6 of the European Social Survey, 2014. ESS Topline Results Series, issue 4, septembre 2014.

www.europeansocialsurvey.org

EVS/WVS (2020). European Values Study and World Values Survey: Joint EVS/WVS 2017-2021 Dataset (Joint EVS/WVS). JD Systems Institute & WVSA. Dataset Version 1.0.0, doi:10.14281/18241.2

INGLEHART, R., C. HAERPFER, A. MORENO, C. , K. KIZILOVA, J. DIEZ-MEDRANO, M. LAGOS, P. NORRIS, E. PONARIN & B. PURANEN et al. (eds.). 2014. World Values Survey: Round Six - Country-Pooled Datafile Version: https://www.worldvaluessurvey.org/WVSDocumentationWV6.jsp. Madrid: JD Systems Institute.

EUROPEAN COMMISSION. EU OPEN DATA PORTAL. https://data.europa.eu/euodp/en/home

PUBLIC OPINION MOBILE – EUROPEAN COMISSION – EUROBAROMETER INTERACTIVE

https://ec.europa.eu/commfrontoffice/publicopinionmobile/index.cfm/Chart/index

EUROBAROMETER, SPECIAL 469 "Integration of immigrants in the European Union"

EU Neighbours - Eastern Partnership, publications https://www.euneighbours.eu/en/east/stayinformed/publications?f%5B0%5D=topic%3A110

EU Neighbours east, 2020. Annual survey report, Belarus, 5th Wave (Spring 2020)

EU Vs DISINFORMATON. Disionfo database https://euvsdisinfo.eu/disinformation-cases/

EU VS DISINFOMATION. Studies and reports. https://euvsdisinfo.eu/reading-list/

С.Я.Куль-Сяльверстава[1]

# Асаблівасці выкарыстання абшару польскай часткі Белавежскай пушчы для турыстычнай дзейнасці

S. Kul-Sialverstava

# Features of the use of the territory of the Polish part of Belovezhskaya Pushcha for tourist activities

**Рэзюме.** Прасторавая мадэль размяшчэння турыстычнай інфраструктуры ў польскай частцы рэгіёна Белавежскай пушчы абумоўлена некалькімі фактарамі: прымежнае становішча рэгіёна; характар прыродных рэсурсаў, які ўключае найбольш каштоўныя лясныя ўгоддзі; спецыфіка размяшчэння шляхоў; этна-канфесійныя адметнасці рэгіёну. Сёння канцавым пунктам дадзенай турыстычнай дэстынацыі з'яўляецца Белавежа, якая пазіцыянуецца ў турыстычнай прапанове як сталіца Белавежскай пушчы. Але з-за існуючых абмежаванняў у размяшчэнні ахоўных зон і складанай камунікацыі яна не можа развівацца як паўнавартасны турыстычны цэнтр рэгіёну. Вялікі патэнцыял для гэтага мае цэнтр павяту Гайнаўка, але ён выкарыстоўваецца толькі як транзітны пункт і не мае ў турыстычнай прапанове статусу пушчанскага горада.

**Ключавыя словы:** Белавежская пушча, прасторавая мадэль, інфраструктура турызма.

**Abstract.** The spatial model of the placement of tourist infrastructure in the Polish part of the Belovezhskaya Pushcha region is determined by several factors: the border position of the region; the nature of natural resources, including the most valuable forest lands; the specifics of the location of routes; ethno-confessional features of the region. Today, the end point of this tourist destination is Belovezha, which is positioned in the tourist offer as the capital of Belovezhskaya Pushcha. But due to the existing restrictions in the placement of security zones and complex communication, it cannot develop as a full-fledged tourist center of the region. The center of the village of Gaynovka has a great potential for this, but it is used only as a transit point and does not have the status of a Pushchansky city in the tourist offer.

**Keywords:** Belovezhskaya Pushcha, spatial model, tourism infrastructure.

Турыстычная дзейнасць заснавана на актыўным выкарыстанні прасторы, якая мае турыстычную прывабнасць. Як правіла, антрапагенная нагрузка, выкліканая інтэнсіўным турыстычным патокам, негатыўна ўплывае на навакольнае асяроддзе, перш за ўсё, на прыродныя рэсурсы. Ад інтэнсіўнага і неарганізаванага турыстычнага патоку найбольш пакутуюць тэрыторыі, у якіх навакольнае асяроддзе адчувальнае і мала ўстойлівае да антрапапрэсіі, а нагрузка на яго перавышае норму і не стварае ўмоў для натуральнай рэгенерацыі прыродных рэсурсаў[2]. У сувязі з гэтым асабліва ўзрастае значэнне рацыянальнага, прадуманага планавання турыстычнай інфраструктуры, маршрутаў і іншых аб'ектаў, звязаных з турызмам, у каштоўных прыродных раёнах, у прыватнасці, у запаведніках і нацыянальных парках. У дадзеным артыкуле прадстаўлены вынікі папярэдняга аналізу мадэлі прасторавага размяшчэння турыстычнай інфраструктуры і іншых аб'ектаў, звязаных з турысцкай дзейнасцю, у рэгіёне Белавежскай пушчы ў межах Падляскага ваяводства Польшчы. Даследаванне грунтуецца на метадзе статыстычнага аналізу, гісторыка-генетычным падыходзе, параўнальным метадзе.

Праблема прасторавага планавання турыстычнай інфраструктуры з'яўляецца адной з актуальных у даследаваннях, прысвечаных аптымізацыі турыстычнай дзейнасці. Дадзеная

---

[1] ***Беластокскі тэхналагічны ўніверсітэт, Беларуская Акадэмія, доктар гістарычных навук, прафесар, Беласток, Польшча.***

[2] W. Kurek. *Turystyka na obszarach górskich Europy.* IGiGP UJ, Kraków 2004, s. 161.

праблема разглядаецца ў некалькіх аспектах, у тым ліку сацыяльна-эканамічным[3], экалагічным[4], прававым[5] і іншых.

***Характарыстыка рэгіёна Белавежскай пушчы як турыстычнай дэстынацыі***

Геаграфічныя рамкі даследавання ахопліваюць тэрыторыю, якая ўваходзіць у некалькі паветаў Падляскага ваяводства, у першую чаргу, Гайнаўскага, дзе сканцэнтраваны асноўны масіў Белавежскай пушчы, а таксама Беластоцкага і Бельска-Падляскага, звязаных з дэстынацыяй Белавежскай пушчы транспартнымі магістралямі і турыстычнымі маршрутамі.

Гайнаўскі павет размешчаны ў паўднёва-ўсходняй частцы Падляскага ваяводства. Гэта надзвычай маляўнічая тэрыторыя самага экалагічна здаровага раёна «Зялёных лёгкіх Польшчы». У двух гарадах: Гайнаўцы і Кляшчэлях, а таксама ў 242 сельскіх населеных пунктах пражывае каля 41 тыс.чалавек. На плошчы 1624 км$^2$ размешчаны дзевяць гмін: гарадская Гайнаўка, гарадска-сельская Кляшчэлі і сельскія - Белавежа, Чарэмха, Чыжэ, Дубічы, Гайнаўка, Нараў, Нарэўка. Найбольшымі па колькасці насельніцтва з’яўляюцца Гайнаўка (20488 чал.), Нараў (3454) і Кляшчэлі (2466).[6]

Па ўзроўні лясістасці павет не займае вядучае месца ў ваяводстве, паколькі лясы пакрываюць крыху больш за трацiну яго тэрыторыі. Аднак гэта асабліва каштоўныя лясныя рэсурсы, якія ўваходзяць у склад нацыянальнага парку «Белавежская пушча», а таксама ў ахоўныя тэрыторыі «Натура 200». Нацыянальны парк “Белавежская пушча” з’яўляецца найбуйнейшым і найбольш цікавым з пункту гледжання развіцця турызму нацыянальным паркам Падляскага ваяводства. Гэта адзін з найстарэйшых запаведных лясоў Еўропы; ахова прыродных рэсурсаў, перш за ўсё, зубра, вядзецца тут з XIV стагоддзя. У цяперашні час агульная тэрыторыя пушчы складае каля 145 кв.км. У выніку дэмаркацыі мяжы пасля Другой сусветнай вайны Белавежская пушча ўваходзіць у склад дзвюх краін – Рэспублікі Польшча і Рэспублікі Беларусь. Польская частка пушчы, якая знаходзіцца ў Падляскім ваяводстве, складае каля 45% усёй яе тэрыторыі. У 1979 годзе Белавежская пушча ўнесена ў спіс прыроднай спадчыны ЮНЕСКА, з 2014 года запаведнік з’яўляецца трансгранічным Аб’ектам Сусветнай спадчыны пад агульнай назвай «Białowieża Forest» .[7]

Нацыянальны парк «Белавежская пушча» валодае значным прыродным і культурным патэнцыялам, на падставе якога сфарміраваны марачныя турыстычныя прадукты, якія з’яўляюцца ўнікальнымі альбо рэдка сустракаемымі не толькі ў Польшчы, але і ў свеце. Да ліку турыстычных аб’ектаў, якія ўваходзяць у склад марачных турыстычных прадуктаў, варта аднесці Дарогу каралеўскіх дубоў, Дарогу літоўскіх князёў, рэзерват для назірання за зубрамі, музей, царскую паляўнічую рэзідэнцыю, выставачныя залы, адукацыйныя пляцоўкі лясной службы, вузкакалейную чыгунку і іншыя турысцка-прыродныя і культурныя аб’екты і комплексы. Складовай часткай турыстычнага прадукту, які прапануе Белавежская пушча, з’яўляюцца шматлікія культурныя і спартыўныя падзеі, большая частка з іх носіць традыцыйны характар. У ліку такіх падзей варта згадаць спартыўнае свята «Белавежа бяжыць»; заключны этап агуль-

[3] Д. В. Никитюк *Моделирование развития туристской территориальной кластерной структуры брестского региона* [в:] *Вестник БГУ.* Сер. 2. 2013. № 3, с. 71-77; I. Kapera. *Polityka turystyczna organów samorządu Województwa małopolskiego w aspekcie działań stymulujacy popyt turystyczny* [w:] *Zeszyty naukowe Uniwersytetu Szczecińskiego*, Nr 697 *Ekonomiczne problemy usług*, NR 82, 2012, s.371-384; N.M.Popadynets. *Impact of trade on the development of a tourism cluster in a region*. [w:] *Socio-economic problems of the modern period of Ukraine*, 2018, 4(132), s.23-28.

[4] P. Pawlaczyk. *Modele oddziaływań człowiek – przyroda jako podstawa określenia pojemności turystycznej parku narodowego,* [w:] *Użytkowanie turystyczne parków narodowych. Ruch turystyczny– zagospodarowanie – konflikty – zagrożenia, Ojcowski Park Narodowy, Krajowy zespół Badan i dokumentacji Zabytków*, Ojców, 2002, s. 23-36.; D. Zaręba. *Ekoturystyka*. Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa, 2006

[5] C. Maliszewski. *Planowanie przestrzenne obszarów turystycznych i rekreacyjnych w świetle obowiązujących regulacji prawnych*. [w:] *Człowiek i Środowisko*, 38 (3-4), 2014, s. 69-90

[6] charakterystyka-powiatu-hajnowskiego https://samorzad.gov.pl/web/powiat-hajnowski/charakterystyka-powiatu-hajnowskiego (доступ 22.02. 2023)

[7] Ж. А Лялькова., М.Ф. Шалькевич. *Национальные парки Республики Беларусь*[в: ] *Веснік адукацыі: штомесячны навукова-практычны і інфармацыйна-метадычны часопіс*. 2007, 3, с. 62-72.

напольскага конкурсу «Лес – мая любоў»; конкурс фатаграфіі «Падляссе ў аб'ектыве»; Кубак Польшчы па скандынаўскай хадзе і многія іншыя. У турыстычную прапанову ўключаюцца таксама традыцыйныя народныя святы, перш за ўсё, Купалле, якое шырока адзначаецца беларусамі, якія складаюць значную частку насельніцтва ў раёне Белавежскай пушчы. Часткай турыстычнага прадукту з'яўляюцца шматлікія спартыўныя падзеі і акцыі, у тым ліку, сплавы на байдарках, веласіпедныя і конныя рэйды; попытам у турыстаў карыстаюцца паездкі па пушчанскіх дарогах на брычках і санках, якія часта дапаўняюцца анімацыяй, пікнікам, тэатралізаваным прадстаўленнем фальклорных груп.[8]

Спецыфіка арганізацыі транспартнай сеткі ў рэгіёне Белавежскай пушчы абумоўлена як гісторыяй гэтай тэрыторыі, так і яе геапалітычным становішчам і характарам прыроднага асяроддзя. Пасля заканчэння Другой сусветнай вайны і дэмаркацыі мяжы паміж Польшчай і СССР у 1946-1956 гг.рэгіён Белавежскай пушчы стаў памежным. Транспартныя зносіны ў сувязі з гэтым набылі спецыфічны характар: ўсходні кірунак з польскага боку быў абмежаваны палітычнай мяжой. У цяперашні час гэта палітычная мяжа паміж Еўрапейскім Саюзам і Рэспублікай Беларусь. Строгі рэжым аховы шмат у чым вызначае не толькі вектар транспартных патокаў, але таксама даступнасць рэгіёну і кірунак турыстычнага патоку. У пэўнай ступені блізкасць палітычнай мяжы ўплывае на характар працэсу ўрбанізацыі, размяшчэнне інфраструктуры, у тым ліку турыстычнай.

Важнай адметнай рысай рэгіёна Белавежскай пушчы можна лічыць этнічны і канфесійны склад яго насельніцтва. Паводле статыстыкі, тут пражывае большая частка беларусаў, якія з'яўляюцца грамадзянамі Польшчы. Яны складаюць каля 40% жыхароў Гайнаўскага павета.[9] Другую па ліку прадстаўнікоў няпольскай нацыянальнасці групу насельніцтва ў павеце складаюць украінцы. Большасць падляскіх беларусаў і ўкраінцаў вызнаюць праваслаўе, што ўплывае на харктэрныя рысы мясцовай народнай культуры, а таксама на асаблівасці сакральнай архітэктуры ў рэгіёне.

Такім чынам, асноўнымі спецыфічнымі рысамі рэгіёну Белавежскай пушчы з'яўляюцца, на наш погляд, адсутнасць буйных населеных пунктаў; адносна невысокая лясістасць з адначасовай наяўнасцю значных масіваў асабліва каштоўных лясных угоддзяў; прыгранічнае становішча і шматэтнічны і поліканфесійны склад насельніцтва. Гэтыя характарыстыкі іграюць галоўную ролю ў арганізацыі турыстычнай дзейнасці і вызначаюць шляхі фарміравання аптымальнай мадэлі развіцця турызму на дадзенай тэрыторыі.

***Асаблівасці прасторавай мадэлі арганізацыі турыстычнай дзейнасці ў рэгіёне Белавежскай пушчы.***

У прасторавай мадэлі арганізацыі турыстычнай дзейнасці ў рэгіёне Белавежскай пушчы галоўную ролю адыгрывае прынцып занавання, абумоўлены неабходнасцю захавання ўмоў аховы каштоўных лясных угоддзяў. На дадзенай тэрыторыі дзейнічаюць абмежаванні ў выкарыстанні прыродных рэсурсаў паводле статусаў тэрыторый, якія ўваходзяць у склад аб'екта Сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і біясфернага рэзервата ЮНЕСКА; Нацыянальнага парку «Белавежская пушча», некалькіх дзесяткаў рэзерватаў прыроды рознай ступені аховы і тэрыторый «Натура 2000», прызначаных для аховы рэдкіх відаў птушак. (Мал. 1)

Нягледзячы на вялікую колькасць ахоўных тэрыторый, яны ў цэлым размешчаны кампактна, што з'ўляецца адной з характэрных рыс рэгіёну[10] і дазваляе вылучыць зоны строгай аховы, частковай аховы прыроды і гаспадарчыя лясы. Такі падзел абумовіў фармаванне прасторавай мадэлі турыстычнага выкарыстання прыродных рэсурсаў. У размяшчэнні асноўных элементаў турыстычнай інфраструктуры выразна відаць занаванне, прывязанае да ахоўнага статусу прыроднага асяроддзя. (Мал.2); тут вылучаныя тры зоны, кожная з якіх выконвае пэўную функцыю ў агульнай мадэлі выкарыстання прыродных рэсурсаў.

---

[8] A. Rutkiewicz. *Leśne produkty turystyczne Puszczy Białowieskiej* [w:] *Studia i Materiały CEPL w Rogowie*, R. 15. Zeszyt 37 ( 4 ), 2013, s. 272.

[9] https://www.gov.pl/web/mniejszosci-narodowe-i-etniczne/bialorusini (доступ 20.02.2023)

[10] R. Paluch. *Bierna ochrona przyrody w Puszczy Białowieskiej – jej skuteczność i konsekwencje.* [w:] *Zarządzanie ochroną przyrody w lasach.* T. 6 , 2012, s. 326-337

У першую зону ўваходзяць найбольш каштоўныя лясныя ўгоддзі, доступ да якіх абмежаваны альбо наогул забаронены для наведвання турыстамі. Гэта ядро Нацыянальнага парку. Экскурсіі ў найбольш каштоўныя ахоўныя тэрыторыі магчымыя толькі ў суправаджэнні экскурсавода і за спецыяльную плату. Устаноўлены рэгламент, які рэгулюе час і парадак знаходжання турыстаў у дадзенай частцы нацыянальнага парку.

Другая зона з'яўляецца транзітнай, у ёй размешчана большасць турыстычных маршрутаў рознага тыпу – пешых, конных, веласіпедных. Тут праходзіць і вузкакалейная чыгунка, якая з'яўляецца адным з элементаў турыстычнай прапановы. У дадзенай зоне фактычна адсутнічаюць аб'екты гасцінічнага і гастранамічнага тыпу. Гэтая зона ўключае як ахоўныя прыродныя тэрыторыі (рэзерваты), так і гаспадарчыя лясы і іншыя ўгоддзі.

Трэцяя зона ўключае ў сябе населеныя пункты і з'яўляецца месцам размяшчэння гасцінічных, гастранамічных і іншых аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры. У ёй вылучаюцца тры асноўныя населеныя пункты: Белавежа, Гайнаўка і Нарэўка. У цяперашні час асноўную нагрузку антрапапрэсіі бярэ на сябе Белавежа, якая пазіцыянуецца ў турыстычнай прапанове як сталіца Белавежскай пушчы.

Мадэль арганізацыі прасторы для турыстычнай дзейнасці, якая функцыянуе сёння ў рэгіёне польскай часткі Белавежскай пушчы, з'яўляецца дастаткова распаўсюджанай. Падобным чынам упарадкавана выкарыстанне прыродных рэсурсаў і ў беларускай частцы Белавежскай пушчы. Разам з тым, у рэалізацыі дадзенай мадэлі на польскім баку, на наш погляд, ёсць праблемныя элементы, якія патрабуюць змены, мадэрнізацыі. Гэта тычыцца, перш за ўсё, размяшчэння гасцінічнай і гастранамічнай базы, а таксама зместу турыстычнай прапановы.

З трох буйных населеных пунктаў, размешчаных на тэрыторыі Белавежскай пушчы, цэнтральнае месца ў дадзенай турыстычнай дэстынацыі займае Белавежа. Менавіта гэты невялікі па плошчы і колькасці насельніцтва пасёлак канцэнтруе найбольшую колькасць атракцый, прапанаваных турыстам для наведвання. Усе яны, так ці інакш, звязаныя з лесам, пазіцыянуюцца як галоўныя і адзіныя месцы, якія характарызуюць асаблівасці пушчы, яе гісторыю і сучасны стан. Як правіла, у рэкламных прапановах называюцца рэзерват паказу зуброў, царква Св. Мікалая, домік Гродзенскага губернатара, пешыя маршруты ў Нацыянальным парку, Палацавы парк, станцыя вузкакалейнай чыгункі "Белавежа.Палац», Музей лесу.[11] Белавежа прапануе 50 гасцінічных аб'ектаў рознага тыпу, уключаючы адзін з самых прэстыжных гатэляў Падляскага ваяводства «Зубруўка», а таксама асобныя дамы або аграсядзібы.[12]

Найбуйнейшы па колькасці жыхароў населены пункт Гайнаўка, які з'яўляецца цэнтрам павета, у дадзенай прасторавай мадэлі мае ролю транзітнага пункта: праз яго дабіраюцца ў Белавежу, якая знаходзіцца ў двух дзясятках кіламетраў, каб пазнаёміцца з Белавежскай пушчай і яе асаблівасцямі. Атракцыі, прапанаваныя ўвазе турыстаў у Гайнаўцы, не пазіцыянаваныя, як аб'екты, звязаныя з лесам, і могуць знаходзіцца ў любым іншым, не пушчанскім рэгіёне. Сярод іх - парк мініяцюр архітэктуры Падляшша; Аквапарк, вузкакалейная дарога, сабор св. Тройцы, домік Бабы Ягі, Цэнтр беларускай культуры з этнаграфічнай экспазіцыяй; прыватны музейны збор, прысвечаны кавальскай справе; помнік зубру на цэнтральнай плошчы.[13]

Для размяшчэння турыстаў прапануецца 34 гасцінічныя аб'екты, галоўным чынам, асобныя кватэры альбо прыватныя дамы, а таксама аграсядзібы. Паказальна, што пры апісанні дадзеных гасцінічных аб'ектаў амаль абавязкова паказваецца адлегласць да Белавежы, а сярод бліжэйшых помнікаў – размешчаныя ў Белавежы Палацавы парк і рэзерват зуброў.[14]

---

[11] https://podroze.onet.pl/polska/podlaskie/bialowieza-co-warto-zobaczyc-kiedy-jechac-najwieksze-atrakcje-w-okolicy/gn7c1jd, https://mynaszlaku.pl/bialowieza-atrakcje-i-zwiedzanie/ (доступ 22.02.2023)

[12] https://www.booking.com/searchresults.pl.html?label=bialowieza-46xhidDGKT5sWjPdy*SOqAS491224846238%3Apl%3Ata%3Ap1%3Ap2%3Aac%3Aap%3Aneg%3Afi%3Atikwd-315362657459%3Alp1011435%3Ali%3Adec-%3Adm&aid=376636&city=-493462&offset=25) (доступ 22.02.2023)

[13] podrozepoeuropie.pl/hajnowka-atrakcje hajnowka.pl/strona/dla-turysty-atrakcje/897-swiatynie sztetl.org.pl/pl/miejscowosci/h/745-hajnowka/96-historia-miejscowosci/68897-historia-miejscowosci wrotapodlasia.pl/pl/region_i_gospodarka/wiadomosci/historia/odkrywamypodlaskiegminy--hajnowka.html bialowieza-forest.com/miejsce/restauracja-lesny--dworek-hajnowka (доступ 22.02.2023)

[14] https://www.booking.com/searchresults.pl.html?label=hajnowka-rjg7sD*OjQ88K1WFlbkKMAS540075680538%3Apl%3Ata%3Ap15%3Ap2%3Aac%3Aap%3Aneg%3Afi%3Atikwd-31844188640%3Alp1011435%3Ali%3




*Мал.1. Схема ахоўных прыродных тэрыторый ў рэгіёне Белавежскай пушчы.*
***Крыніца:*** *R. Paluch Bierna ochrona przyrody w Puszczy Białowieskiej – jej skuteczność i konsekwencje. [w:] Zarządzanie ochroną przyrody w lasach. T. 6 (2012), s. 329*

Нарэўка, як і Гайнаўка, мае ролю транзітнага пункта паміж Беластокам і Белавежай. Гэты невялікі населены пункт (каля 2,5 тыс.чал.) мае толькі адну годную большай увагі турыстаў цікавостку – Дом Бортніка. Гэта гасцінічны комплекс, які мае невялікі музей бортніцтва і мёду.

Недахоп дадзенай мадэлі арганізацыі прасторы для турыстычнай дзейнасці праглядаецца, на наш погляд, у канцэнтрацыі аб'ектаў для наведвання і пражывання ў Белавежы. Можна вылучыць наступныя фактары, якія аказваюць негатыўны ўплыў на магчымасць пашырэння турыстычнага патоку, паляпшэнне якасці абслугоўвання турыстаў і павелічэнне турысцкай прапановы на падставе рэсурсаў Белавежы:

- Адсутнасць рэзерву свабодных плошчаў для будаўніцтва значных аб'ектаў турыстычнай інфраструктуры. Белавежа акружаная ахоўваемымі тэрыторыямі, якія абмяжоўваюць магчымасць выкарыстання новых плошчаў для гаспадарчай дзейнасці, пракладкі камунікацый і дарожнага будаўніцтва.

- Памежнае становішча Белавежы ставіць пад пагрозу яе даступнасць у выпадку палітычнага крызісу на мяжы. Мігранцкі крызіс 2020-2023 гг. вымусіў улады Польшчы ўвесці надзвычайнае становішча ў прымежных гмінах, у лік якіх уваходзіць і Белавежа. Такім чынам, у вясновы, летні і восеньскі сезоны 2021г. гэты населены пункт апынуўся недаступным для наведвання турыстамі. Для праезду трэба было атрымаць спецыяльны дазвол, а перамяшчэнне па пасёлку і ваколіцах было абмежавана.[15] Гэта фактычна прывяло да падзення турыстычнага попыту і значных страт.

- Транспартная даступнасць Белавежы з'яўляецца абмежаванай. У дадзены населены пункт вядзе толькі адна асфальтавая дарога, прызначаная для аўтобусаў з нізкай пасадкай, якія выкарыстоўваюцца турыстычнымі перавозчыкамі. Астатнія транспартныя шляхі грунтавыя і большасць з іх недаступна для праезду аўтамабілем альбо аўтобусам. Такім чынам, варыянтаў трапіць у Белавежу або выехаць з яе ў выпадку блакавання асфальтавай дарогі аварыяй альбо стыхійным бедствам, застаецца няшмат.

***Высновы***

Прасторавая мадэль арганізацыі турыстычнай дзейнасці на падставе рэсурсаў Белавежскай пушчы на польскім баку мяжы, на нашу думку, мае патрэбу ў мадэрнізацыі і аптымізацыі. Белавежу, якая з'яўляецца сёння цэнтральным пунктам дэстынацыі, нельга разглядацца ў якасці аптымальнага месца для развіцця турыстычнай інфраструктуры, паколькі з-за розных прычын яна можа стаць недасяжнай для турыстаў, што ўдарыць па ўсім рынку турыстычных паслуг у рэгіёне. Перспектыўным месцам для развіцця турызму, на наш погляд, з'яўляецца Гайнаўка, патэнцыял якой пакуль мала выкарыстоўваецца. Дадзены населены пункт павінен быць пазіцыянаваны ў турыстычнай прапанове ў якасці пушчанскага, які не толькі мяжуе з Белавежскай пушчай, але і знаходзіцца ў яе межах, што адлюстроўвае рэальную сітуацыю.

[15] https://www.prawo.pl/samorzad/ograniczenia-na-granicy-z-bialorusia-do-30-czerwca-2022r,511733.html (доступ 24.02.2023)




*Мал.2. Размяшчэнне элементаў турыстычнай інфраструктуры ў рэгіёне Белавежскай пушчы.*
***Крыніца:** http://www.krainazubra.pl/kategorie,52.html (доступ 21.02.2023)*

Патэнцыйным лясным турыстычным аб'ектам на тэрыторыі Гайнаўкі можа стаць мясцовае лясніцтва, сядзіба якога знаходзіцца на ўскраіне горада. Яшчэ адным аб'ектам можа быць Цэнтр навуковых даследаванняў Інстытута лесу, які знаходзіцца ў Гайнаўцы і мае цікавыя калекцыі і вопытныя ўчасткі ў лясніцтве. Перабудовы і мадэрнізацыі патрабуе мясцовы Дом беларускай культуры, музейныя экспазіцыі якога ствараліся яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя і патрабуюць новых падыходаў і крэатыўных рашэнняў. Гайнаўка можа значна знізіць антрапарэсінг на Белавежу, прыцягнуць да сябе частку турыстычнага патоку і з транзітнага пункта перарасці ў канчатковы пункт падарожжа.

### *Літаратура*

Kapera I. *Polityka turystyczna organów samorządu Województwa małopolskiego w aspekcie działań stymulujacy popyt turystyczny* [w:] *Zeszyty naukowe Uniwersytetu Szczecińskiego*, Nr 697 Ekonomiczne problemy usług, NR 82, 2012, s.371-384;

Kurek W. *Turystyka na obszarach górskich Europy*, IGiGP UJ, Kraków 2004 Maliszewski C. *Planowanie przestrzenne obszarów turystycznych i rekreacyjnych w świetle obowiązujących regulacji prawnych.* [w:] *Człowiek i Środowisko,* 38 (3-4), 2014, s. 69-90.

Paluch R. *Bierna ochrona przyrody w Puszczy Białowieskiej – jej skuteczność i konsekwencje.* [w:] *Zarządzanie ochroną przyrody w lasach*. T. 6 (2012), s. 326-337.

Pawlaczyk P. *Modele oddziaływań człowiek – przyroda jako podstawa określenia pojemności turystycznej parku narodowego*, [w:] *Użytkowanie turystyczne parków narodowych. Ruch turystyczny– zagospodarowanie – konflikty – zagrożenia, Ojcowski Park Narodowy, Krajowy zespół Badan i dokumentacji Zabytków,* Ojców, 2002, s. 23-36.

Popadynets N.M. *Impact of trade on the development of a tourism cluster in a region*.[in:] *Socio-economic problems of the modern period of Ukraine*, 2018, 4(132), s.23-28.

Rutkiewicz A. *Leśne produkty turystyczne Puszczy Białowieskie*j [w:] *Studia i Materiały CEPL w Rogowie* R. 15. Zeszyt 37 / 4 / 2013 s. 270-277.

Zaręba. D. *Ekoturystyka*. Wydawnictwo Naukowe PWN, Warszawa, 2006

Никитюк Д. В. *Моделирование развития туристской территориальной кластерной структуры брестского региона* [в:] *Вестник БГУ*. Сер. 2. 2013. № 3, с. 71-77;

*Інтэрнет-крыніцы*

charakterystyka-powiatu-hajnowskiego https://samorzad.gov.pl/web/powiat-hajnowski/charakterystyka-powiatu-hajnowskiego

https://www.gov.pl/web/mniejszosci-narodowe-i-etniczne/bialorusini

http://www.krainazubra.pl/kategorie,52.html

https://podroze.onet.pl/polska/podlaskie/bialowieza-co-warto-zobaczyc-kiedy-jechac-najwieksze-atrakcje-w-okolicy/gn7c1jd,

https://mynaszlaku.pl/bialowieza-atrakcje-i-zwiedzanie/

https://www.booking.com/searchresults.pl.html?label=bialowieza-46xhidDGKT5sWjPdy*SOqAS491224846238%3Apl%3Ata%3Ap1%3Ap2%3Aac%3Aap%3Aneg%3Afi%3Atikwd 5362657459%3Alp1011435%3Ali%3Adec%3Adm&aid=376636&city=-493462&offset=25

podrozepoeuropie.pl/hajnowka-atrakcje

hajnowka.pl/strona/dla-turysty-atrakcje/897-swiatynie

sztetl.org.pl/pl/miejscowosci/h/745-hajnowka/96-historia-miejscowosci/68897-historia-miejscowosci wrotapodlasia.pl/pl/region_i_gospodarka/wiadomosci/historia/odkrywamypodlaskiegminy--hajnowka.html

bialowieza-forest.com/miejsce/restauracja-lesny-dworek-hajnowka

https://www.booking.com/searchresults.pl.html?label=hajnowka-rjg7sD*OjQ88K1WFlbkKMAS540075680538%3Apl%3Ata%3Ap15%3Ap2%3Aac%3Aap%3Aneg%3Afi%3Atikwd-31844188640%3Alp1011435%3Ali%3Adec%3Adm%3Appccp%3DUmFuZG9tSVYkc2RlIyh9YbSsBl3MCvHsyw-mWuxZ2N8&aid=311264&city=-503896&redirected=1&redirected_from_city=1&source=city&offset=25

О. В. Дробыш[1]

# Культурные права национальных меньшинств: международно-правовой контекст и литовский опыт правовой регламентации

O. V. Drobysh

# Cultural rights of national minorities: international legal context and Lithuanian experience of legal regulation

**Резюме**: В статье проведён анализ международной регламентации и литовской практики законодательного регулирования культурных, в том числе, языковых прав национальных меньшинств. На основе систематизации международных и конституционных норм, а также анализа организационных гарантий реализации данных прав сформулирован вывод о возможности и целесообразности использования данного опыта при формировании белорусской национальной политики и поиска путей совершенствования правового регулирования в данной области.

**Ключевые слова**: национальные меньшинства, культурные права, языковые права.

**Abstract:**The article analyses the international regulation and Lithuanian practice of legislative regulation of cultural, including linguistic, rights of national minorities. Based on the systematization of international and constitutional norms, as well as analysis of organizational guarantees for implementation of these rights, the conclusion about the possibility and expediency to use this experience in the formation of Belarusian national policy and searching of ways to improve the legal regulation in this sphere is formulated.

**Keywords:** national minorities, cultural rights, linguistic rights.

### *Введение*

В современном международном и конституционном праве проблема реализации и правовой регламентации прав национальных меньшинств, их, в первую очередь, языковых и, в целом, культурных прав сложно рассматривать в строго правовом контексте. Оставляя за пределами данного исследования вопросы правовой оценки присоединения Крыма к Российской Федерации в 2014 году,[2] заявленные причины и поводы агрессивного нападения Российской Федерации на Украину в 2022 году, тем не менее, отметим, что одним из формальных поводов этих политических акций являлось доминирование на данных территориях носителей русского языка по сравнению с украинским и, якобы, дискриминация их по языковому признаку. Как известно, в идеологии современного каталонского национализма[3] языковой вопрос также является ключевым.

Люди, проживающие в поликультурной среде и принадлежащие к национальным меньшинствам, тесно связывают возможность свободно пользоваться собственным языком с вопросом самоопределения. Для большинства меньшинств язык так же, а может и в большей степени, чем любой иной атрибут (религия или история), служит средством единения группы и источником самоопределения личности. Использование и сохранение культуры меньшинства предполагает свободу передавать мысли, обычаи и другие признаки культуры на исходном языке меньшинства.

О научном и общественном интересе к проблеме, степени разработанности вопросов, связанных с регулированием отношений в сфере национальной политики в аспекте реализации культурных прав национальных меньшинств, свидетельствуют публикации исследовате-

---

1 ***Кандидат юридических наук, Белорусская академия, Литва, Клайпеда***

2 Договор между Российской Федерацией и Республикой Крым о принятии в Российскую Федерацию Республики Крым и образовании в составе Российской Федерации новых субъектов . http://kremlin.ru/events/president/news/20605. (Дата доступа: 05.03.2022.)

3 М.В. Киричанов Националистическая модернизация (каталонский опыт). http://ir.vsu.ru/resources/library/books/nationalism/5.pdf. (Дата доступа: 05.03.2022.)



*Мал. 1. Подпісы кс. Андрэя Зеляпугі і лентвойта Войцеха Зеляпугі пры продажы 1693 г.,*
***Крыніца:** LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 4528, l. 37 адв.*

памёр. Марыяна з сынам Мацеем пазычылі ў зяця Ж. Шульца і яго жонкі Яганны 100 бітых талераў пад заклад камяніцы на Рынку на рагу Маставой (1710)[35]. Марыяна памерла да 1713 г. У тэстаменце свайго сына згадваецца як нябожчыца.

Мацей Маслоўскі не меў сям'і. У 1713 г. ён склаў пункты тэстамента. У іх пералічваліся яго пазыкі, а таксама асобы хто яму быў вінен. Сам тэстамент быў напісаны 30 снежня 1712 г., актыкаваны ў кнігі гарадзенскага войтаўска-лаўніцкага суда 12 студзеня 1713 г. Хоць Мацей быў у маладым узросце, але па прычыне розных праблем захварэў. У 1710 г. у яго забралі маёмасць за кошт узятага ў Любліне тавару на суму 4 000 злотых. Гэта моцна падарвала фінансавы і псіхалагічны стан. Яго адзінымі блізкімі засталіся швагер Жыгімонт Шульц і сястра Яганна. Тэстатар адзначаў пра іх дапамогу падчас хваробы, прасіў арганізаваць пахаванне ў бернардынскім касцёле. Свой пляц на Рынку, каля вул. Маставая, Мацей завяшчаў сваякам[36].

Пасля смерці Мацея Маслоўскага ўсе яго пазыкі былі выплачаны Шульцам і сястрой. Агульная сума склала 3 784 злотых. Дакумент, з пералікам выплат пазыкаў Мацея, быў дадзены пляменніку Юзафу Судану, гарадзенскаму лаўніку, у 1723 г. У ім жа адзначалася аб няслушных прэтэнзіях пляменніка да Шульцаў[37]. Верагодна, што пляменнік патрабаваў ад іх частку спадчыны па Мацею. Аднак сыходзячы з тэстаменту і выплаты пазыкаў Шульцамі, Юзаф не меў магчымасці атрымаць станоўчы вынік у гэтай справе.

Кацярына, калі выходзіла замуж за Яна Судана, у якасці пасагу атрымала ад бацькоў частку пляца на Рынку каля вул. Маставой. У іх нарадзіўся сын Юзаф, які пазней стаў гарадзенскім бурмістрам. Ён ажаніўся з Зузаннай Харэвічоўнай. У 1722 г. гэту частку пляца Юзаф прадаў Жыгімонту Шульцу і яго жонцы за 400 злотых[38].

[35] LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 5308, l. 3–4.
[36] Ibidem, l. 5–13.
[37] Ibidem, l. 16.
[38] Ibidem, l. 17–21.

Жыгмонт Шульц зрабіў кар'еру ў гарадзенскім магістраце ад лаўніка да бурмістра[39]. Ён склаў свой тэстамент 30 сакавіка 1724 г., актыкаваны быў у той жа дзень. У дакуменце тэстатар прасіў пахаваць яго ў бернардынскім касцёле, у сендыкоўскім склепе, у манаскай вопратцы. За магчымасць быць пахаваным у касцёле вылучалася 400 салянак паленай вапны. Жонка Яганна павінна была вярнуць пазыку бернардынскаму кляштару 666 тынфаў і 2 шостакі. На яе ускладаўся абавязак падаваць за душу ў розныя храмы, выплаціць іншыя пазыкі. Маёмасць дзялілася паміж Яганнай і дзецьмі Тамашам і Марыянай[40]. Дачка выйшла замуж за радцу і бурмістра Юзафа Бадараку. Палова камяніцы на рагу Рынка і вул. Маставой яна перадала па свайму тэстаменту (1730) мужу. Пасля маёмасць перайшла дачцэ Ружы[41].

*Высновы*. Гісторыя сем'і Яна Зеляпугі прадстаўляе сабой частку гісторыі гарадзенскіх мяшчанскіх эліт. Другая палова XVII ст. была цяжкім перыядам для Гародні і яе жыхароў. Вайна моцна адбілася на матэрыяльным становішчы. Судовыя спрэчкі з-за маёмасці таксама не абышлі сям'ю Зеляпугаў. Сваркі паміж братамі і сёстрамі, ці паміж бацькамі і дзецьмі не былі рэдкасцю. Пры гэтым захаваліся шлюбныя стратэгіі ў Зеляпугаў. Сужэнцы абіраліся сярод гарадзенскіхураднікаў. Аднак, урывачнасць захаваных фактаў не дае магчымасць прадставіць цалкам гісторыю сям'і і ўзаемаадносінаў. Хаця варта адзначыць, што не па кожнай мяшчанскай сям'і можна выявіць нават такія дакументы.

***Бібліяграфія***

*Крыніцы*

Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, ф. 1761, воп. 1, спр. 1–3; ф. 1800, воп. 1, спр. 1.
Archiwum Główne Akt Dawnych, Archiwum Radziwiłłów, dz. XVIII, sygn. 318.
Biblioteka Uniwersitetu Warszawskiego (BUW), Gabinet rękopisów, sygn. 260, dok. 2, 27, 68.
Lietuvos Vaistybes istorijos archyvas, f. 694, ap. 1, b. 3839; f. 1282, ap. 1, b. 820, 4528, 5308, 7021.
*Metryka Litewska. Księga wpisów nr 131,* oprac. A. Rachuba, Warszawa 2001.

*Літаратура*

Брэгер Г., *Дэкрэт, які служыў жыдам гродзенскага кагалу*, [у:] *Памяць*, Гродна 1999, с. 105-110.
Гардзееў Ю., *Магдэбургская Гародня (сацыяльная тапаграфія і маёмасныя адносіны ў 16—18 ст.)*, Гародня – Wrocław 2008.
Сліж Н., *Купцы Фандэберкі ў Гародні ў XVII ст.,* Архіварыус, 2016, вып. 14, с. 347–357.
Сліж Н., *Мяшчанскі род Кудаеўскіх у сістэме кіравання Гародні*, „Учёные записки УО "ВГУ им. П.М. Машерова". Сборник научных трудов", 2020, т. 32, с. 74–80.
Яцкевіч З., Урублеўскі В., *Гарадзенскі магістрат у XVIII ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст*. пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж, Мінск 2011, с. 83-123.
*Borowik* P*., Jurydyki miasta Grodna w XV-XVIII wieku: stanowy podział nieruchomości*, Supraśl 2005.

*Ілюстрацыі*

Подпісы кс. Андрэя Зеляпугі і лентвойта Войцеха Зеляпугі пры продажы 1693 г., Крыніца: LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 4528, l. 37 адв.

[39] З. Яцкевіч, В. Урублеўскі, *Гарадзенскі магістрат у XVIII ст.*, [у:] *Гарадзенскі палімпсест. 2010. Дзяржаўныя і сацыяльныя структуры. XVI–XX ст*. / пад рэд. А.Ф. Смаленчука, Н.У. Сліж, Мінск 2011, с. 108, 113.
[40] LVIA, f. 1282, ap. 1, b. 5308, l. 5–13.
[41] З. Яцкевіч, В. Урублеўскі, *op. cit.*, с. 94–96.

А.Л. Киштымов[42]

# Язык и жандармы: размышления у станционного буфета

A.Kishtymov

# Language and gendarmes: reflections at the station buffet

**Резюме:** В статье представлен материал, характеризующий языковую политику царских властей, применяемую в сфере железнодорожного транспорта. Публикуются документы, иллюстрирующие данную политику.

**Ключевые слова**: железнодорожный транспорт, язык, политика, Российская империя

**Abstract:**The article presents the material characterizing the language policy of the tsarist authorities applied in the field of railway transport. Documents illustrating this policy are published.

**Key words**: railway transport, language, politics, Russian Empire

Более 160 лет назад, в 1862 г., по белорусским землям прошла первая железнодорожная колея. Сугубо техническое изобретение оказало огромное влияние на все стороны жизни. Оно изменило не только экономику, но и социум. Наличие железных дорог стало и политическим фактором. Их стратегическое и военно-политическое значение ярко проявилось уже в событиях 1863-1864 гг.[43]

Железнодорожное хозяйство не ограничивалось только службой пути и подвижным составом. Его инфраструктура включала в себе станции и вокзалы, телеграф и водокачки, депо и ремонтные мастерские. Обслуживанием пассажиров занимались не только билетные кассы и багажные отделения. Частью железнодорожных служб стала розничная торговля, станционные буфеты и рестораны. Как свидетельствуют архивные документы, на этих объектах железнодорожного «общепита» разыгрывались порой нешуточные политические страсти.

На наш взгляд, характер и стиль публикуемых документов настолько выразителен, что они не нуждаются в особых комментариях. Сюжет предельно прост: бытовая сцена в станционном буфете выходит на государственный уровень и становится предметом разбирательства губернатора, жандармов и полиции. Однако в этом инциденте как в капле воды, отразился не просто конфликт на языковой почве, а вся суть официальной национальной политики царизма на белорусских землях.

В этой политике для Российской империи по-своему переломным стал 1863 год. В борьбе с «бунтовщиками» самодержавие, впервые в своей практике, объявило и законодательно закрепило принцип разделения народов на политически лояльных и неблагонадежных. К последним были отнесены так называемые «лица польского происхождения». Ограничения охватывали почти все сферы жизни целого народа: политику, экономику, культуру, образование, религию, национальные обычаи.

Одно из ведущих мест в деле «обрусения» занимали языковые запреты. Было запрещено использовать польский язык в официальной переписке, государственных учреждениях, общественных местах. На основании циркуляра виленского генерал-губернатора Н. Муравьева от 4 апреля 1864 г. употребление польского языка запрещалось в гимназиях Северо-Западного края, а польские книги были изъяты из учебных библиотек. В соответствии с указом Александра II от 8 сентября 1865 г. даже преподавание ксендзами Закона божьего допускалось только на русском языке.

Язык и политика. И сегодня мы являемся свидетелями того, как вопрос о языке нередко переходит в политическую плоскость, а большая политика не решает, а только усугубляет языковые проблемы. Главное – сохраняется сам инструментарий этого процесса. Читатель, знакомый с реалиями современной Беларуси, без труда обнаружит наличие схожих тенденций. И дело здесь, конечно, не в том, что в ответ на обращение по-белорусски вам предложат «разговаривать нормальным языком», а архивная идиома о «лице польского происхождения» подо-

[42] ***Кандидат исторических наук, Беларуская Акадэмія***

[43] Кіштымаў А. *Першая рэйкавая вайна* [в: ] *ARHE*. 2010, № 12 (99), с. 72-85.

зрительно смахивает на современное выражение о «лицах кавказской национальности». Дело в святой уверенности власти в своей непогрешимости и в своих неограниченных возможностях регламентировать все и вся.

Империи Романовых уже нет. Станционные буфеты – остались. Как сохранились в архиве и те документы, которые свидетельствуют о том, как, казалось бы, безобидная сфера обслуживания стала предметом весьма серьезного разбирательства по поводу «подрыва» государственной безопасности.

***

М. В. Д. секретно
Минский Губернатор Г. Начальнику Минского жандармского
25 августа 1883 г. полицейского управления
№ 5305 железных дорог

Считаю нужным обратить внимание Вашего высокоблагородия, что на станциях железных дорог, как Либаво-Роменской, так и Московско-Брестской, расположенных в пределах Минской губернии, содержатели и содержательницы буфетов, вся прислуга и продавцы книг позволяют себе говорить по-польски не только между собою, но и с пассажирами, причем так мало в этом случае стесняются, что отвечают по-польски даже тем из пассажиров, которые обращаются к ним с каким-то вопросом по-русски, как это между прочим пришлось испытать полковнику Миллеру.

В виду того, что подобного рода действия железнодорожной прислуги в высшей степени неуместны, неприличны и неудобны для проезжающих русских пассажиров и так как употребление польского языка в публичных местах безусловно запрещено циркулярами главного Начальника Северо-Западного края от 12 февраля и 24 марта 1864 года и 9-го июня 1868 года, каковые циркуляры и до настоящего времени остались в силе для Минской губернии, я вынужден покорнейше просить Ваше Высокоблагородие принять зависящие меры для воспрещения буфетчикам, железнодорожной прислуге и продавцам газет разговаривать на станциях железных дорог по-польски не только с пассажирами, но и между собою.

Губернатор [подпись]
Правитель канцелярии [подпись]

Источник: Государственный архив Российской Федерации. Ф. 102, 1882 г. Д. 966. Л. 12-13.

***

Минское Жандармское В Департамент полиции
Полицейское управление железных дорог
августа 26 дня 1883 г.

Рапорт

25 сентября 1882 года за № 75, я донес Департаменту, что генерал-губернатор Виленский, Ковенский и Гродненский предписал мне принять меры против употребления служащими на железных дорогах польского языка при исправлении ими служебных обязанностей, и что я тогда же принял все зависящие от меня меры к прекращению этого зла.

Ныне, как видно из представляемого при сем подлиннике предложения Минского губернатора от 25 августа № 5305, принятые мною начальниками отделений и начальниками служб железной дороги меры против этого языка, оказываются не действительными и польский язык процветает на железных дорогах по-прежнему, потому что путешествующие поляки не хотят иначе говорить между собой в вагонах, на вокзалах и в буфетах с прислугой,

как по-польски, а против этого зла я бессилен и не могу воспрещать пассажирам разговор на польском языке, без особых современных приказаний со стороны высшей правительственной власти, так как с 1868 года взгляд Правительства на этот предмет значительно изменился, и бывший Виленский генерал-губернатор генерал-адъютант Потапов воспрещал употребление польского языка только в официальных отношениях и присутственных местах циркулярами, впоследствии не отмененными.

Между тем я считал бы необходимым не только новое повеление о повсеместном воспрещении употребления польского языка, но и ограничение числа служащих поляков на железных дорогах в здешнем крае, где гидра польского мессианизма осмеливается опять, хотя украдкой, поднимать их праха позорную свою голову. Тогда я, если бы мне разрешило правительство, выставил бы, по примеру 1863 и последующих годов, надписи на вагонах и на станциях: «Употребление польского языка, по повелению Высшей правительственной власти, безусловно, воспрещается», и нашел бы возможность уменьшить персонал служащих из лиц польского происхождения.

В одном только не могу согласиться с Минским губернатором: будто бы буфетная прислуга отвечает по-польски русским, это решительно несправедливо.

Почтительнейше докладывая обо всем этом Департаменту полиции, имею честь покорнейше просить почтить меня предписанием, какие вправе я принять решительные меры против господства на железных дорогах польского языка.

Полковник [подпись]

Адъютант управления, штабс-капитан [подпись]

Источник: Государственный архив Российской Федерации. Ф. 102, 1882 г. Д. 966. Л. 10-11.

Руслан Бугаевіч[1]

# Польскі “след” у гісторыі Навапολацка

Ruslan Buhayevich

# The polish “trace” in history of Navapolack

**Рэзюмэ**: Артыкул прысвечаны перыяду (1975-1985) у гісторыі Навапολацка, калі ў горадзе пражывала значная колькасць польскіх грамадзян. Гэта было звязана з будаўніцтвам нафтаправодаў Полацк – Мажэйкяй і Полацк-Андрэапаль. Закранаюцца некаторыя аспекты паўсядзённага жыцця польскіх будаўнікоў у Навапολацку, іх узаемаадносіны з мясцовымі жыхарамі.

Праект фінансуецца за кошт сродкаў праграмы Development Cooperation and Democracy Promotion Programme.

**Ключавыя словы:** Навапολацк, нафтаправод, польскія будаўнікі, кантрабанда.

**Abstract:** The article is devoted to the period (1975-1985) in the history of Navapolack, when there was a significant number of Polish citizens in the city. It was connected with the construction of the Polack-Mažeikiai and Polack – Andreapol oil pipelines. Some aspects of the daily life of Polish builders in Navapolack, their relationships with local residents are touched upon.

The project is financed by the funds of the Development Cooperation and Democracy Promotion Programme.

**Key words:** Navapolack, oil pipeline, polish builders, smuggling.

Навапολацк – адзін з самых маладых гарадоў Беларусі. Ён размешчаны побач са старажытным Полацкам, а разам гарады ўтвараюць Полацкую агламерацыю. Гісторыя Навапολацка пачынаецца 7 чэрвеня 1958 г., калі каля вёсак Слабада і Новы Двор Полацкага раёна з’явіўся намётавы гарадок будаўнікоў новага нафтаперапрацоўчага завода (НПЗ). Першы бензін на заводзе быў выраблены 9 лютага 1963 г.[2] З пачаткам дзейнасці НПЗ і хімкамбіната “Палімір” у горад для пусканаладачных работ прыязджалі замежныя спецыялісты з ГДР, Японіі, Польшчы і іншых краін свету[3]. Масавае з’яўленне замежнікаў у Навапολацку, а менавіта польскіх грамадзян, было звязана з рэалізацыяй маштабнага інфраструктурнага праекта – будаўніцтва нафтаправода.

Для забеспячэння сыравінай новага нафтаперапрацоўчага завода ў Мажэйкею (Літва) неабходна было збудаваць дадатковую галіну нафтаправода. У сувязі з гэтым у СССР былі запрошаныя польскія будаўнікі. Паводле польска-савецкага пагаднення, падпісанага 6 красавіка 1974 г., польскі бок абавязаўся ў 1974-1979 гг. спраектаваць і збудаваць на тэрыторыі СССР аб’екты нафтавай і газавай галін “пад ключ”, у тым ліку нафтаправод “Полацк – Мажэйкей”. Савецкі бок узамен за будаўніцтва забяспечваў дастаўку прыроднага газу і нафты ў Польшчу ў 1976-2000 гг. Акрамя нафтаправода “Полацк – Мажэйкей” польскія спецыялісты пабудавалі адрэзак нафтаправода “Полацк – Сургут” ад Полацка да Андрэапаля (Расія)[4].

16 снежня 1974 г. загадам генеральнага дырэктара прадпрыемства “Энэргаполь” (“Energopol”) была створана Дырэкцыя будовы нафтаправода “Полацк”[5]. У будаўніцтве была задзейнічана значная колькасць прадпрыемстваў з розных ваяводстваў Польшчы: аддзелы “Энэргаполь-1, 2, 3” (“Energopol-1, 2, 3”), “Трансбуд” (“Transbud”), “Паморскае аб’яднанне прамысловага будаўніцтва” (“Pomorskie Zjednoczenie Budownictwa Przemysłowego”), “Прадрыемства будаўніцтва кабельных ліній” (“Przedsiębiorstwo Budowy Linii Kablowych”), “Інстальэкспарт” (“Instalexport”), “Электрамантаж” (“Elektromontaż”), “Кракаўскае прадпрыемства тэлекамунікацыйных работ” (“Krakowskie Przedsiębiorstwo Robót Telekomunikacyjnych”), “Геапраект” (“Geoprojekt”), “Дамонт” (“Domont”). Праектаваннем нафтаправода з савецкага

[1] Інстытут даследаванняў аўтамабільнага рынку Samar, магістр гістарычных навук, Варшава, Польшча.

[2] 60-летию Новополоцка посвящается. История города по десятилетиям [Электронны рэсурс] // Новая газета. – Рэжым доступу: https://www.novaya.by/2018/05/07/60-letiyu-novopolocka-posvyashhaetsya-istoriya-goroda-po-desyatiletiyam. (Дата доступу: 15.02.2022).

[3] Филипенко В., *Экзамен по истории родного предприятия*, [в:] “*Вестник Нафтана*”, 2020, № 5 (627), с. 4-5.

[4] Archiwum Akt Nowych (далей – AAN), Generalna Dyrekcja Budowy Rurociągów Energetycznych „Energopol” w Warszawie, sygn. 2/929/0/8/9/5, Porozumienie między PRL a ZSRR o współpracy.

[5] Archiwum Państwowe w Gdańsku (далей – APG), Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe Budownictwa “Transbud-Gdańsk” w Gdańsku, sygn. 10/2556/0/-/117, Regulamin organizacyjny dyrekcji budowy ropociągów “Połock.

боку займаўся Дзяржаўны праектны навукова-даследчы інстытут Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР “УкргіпраНДІнафта”, а кіраванне будаўніцтвам ажыццяўляла наваполацкае ўпраўленне аб’яднання “Саюзінтрэргазбуд”[6].

Згодна з графікам Міністэрства нафтавай прамысловасці СССР, будаўніцтва інфраструктуры і нафтаправода Полацк – Біржай – Мажэйкей было запланавана на 1975–1977 гг. Сам нафтаправод планавалася збудаваць за 1975-1976 гг. На працягу 1975 г. павінны былі быць завершаныя сацыяльныя базы (гарадкі) і нафтаправод на даўжыню 150 км[7].

З уводам у эксплуатацыю будаўнічага гарадка ў Наваполацку 24 красавіка 1975 г. актывізавалася праца непасрэдна на будаўніцтве нафтаправода.

Колькасць будаўнікоў пастаянна змянялася, што адлюстравана ў табліцы 1. Так, на канец 1975 г. спісачная колькасць работнікаў складала 2120 чалавек, у тым ліку 1800 рабочых (1500 будаўнікоў, 300 тэхнічна-абслугоўваючы персанал) і 320 інжынерна-тэхнічных работнікаў.

*Табліца 1. Колькасць будаўнікоў нафтаправода “Полацк”*[8]

| Год | Колькасць | У тым ліку ў Наваполацку |
|---|---|---|
| Снежань 1975 г. | 2120 | няма даных |
| Сакавік 1976 г. | 1705 | няма даных |
| Ліпень 1976 г. | 3390 | няма даных |
| Сакавік 1977 г. | 3482 | 812 |
| Красавік 1979 г. | 2646 | няма даных |

Трэба адзначыць, што будаўнікі былі размешчаны не толькі ў Наваполацку. Будаўнічыя гарадкі знаходзіліся па ўсёй лініі будаўніцтва нафтаправода “Полацк – Мажэйкей” на тэрыторыі Беларусі (Друя), Латвіі (Скрудаліена, Ілукстэ) і Літвы (Біржай, Ёнішкіс, Акмяне, Мажэйкей). Акрамя таго, да Дырэкцыі ў Наваполацку былі прымацаваныя будаўнічыя базы на поўдні Беларусі: у Кобрыне, Тураве, Зашчоб’і. На тэрыторыі Расіі базы былі ў Навазыбкаве (Бранская вобласць), а пазней (у 1978 г.) базы для патрэб будаўніцтва нафтаправода “Полацк – Сургут” з’явіліся ў Турычыне, Невелі, Тарапцы і Вялікіх Луках. Па меры таго, як прасоўвалася будаўніцтва сацыяльныя базы ліквідоўваліся і перамяшчаліся ў іншыя месцы.

У Наваполацку першы будаўнічы гарадок размясціўся на перасячэнні вуліц Паркавай і Ктатарава, другі – у раёне сучаснай крамы “Дом Кнігі”. Будаўнічы гарадок складаўся з вялікай колькасці баракаў, у кожным з якіх магло размясціцца ад 2 да 4 чалавек. Плошча такога дамка складала 17 м$^2$. На тэрыторыі базы знаходзіліся розныя сацыяльныя аб’екты: сталовая, кіёск, крама, пакоі адпачынку. У такіх умовах пражывалі пераважна звычайныя рабочыя і новапрыбыўшыя работнікі ІТР да моманту атрымання больш камфортнага пакоя ў гатэлі або ў кватэры.

Калі ў 1975 г. у Наваполацк прыехалі першыя брыгады на будаўніцтва нафтаправода, жыхары горада ставіліся да іх вельмі прыязна. Аднак знаходзілася месца і для камічных сітуацый. Большасць польскіх работнікаў хадзіла ў службовай вопратцы з палатняным значком на грудзях са стылізаванай літарай “B” (знак польскіх будаўнічых калектываў). І па горадзе пайшла пагалоска, што прыехалі польскія зняволенныя, якія ў межах рэсацыялізацыі павінны будаваць нафтаправод. Непаразуменне ўзнікла з-за эмблемы з літарай “B”, якая ў рускім алфавіце чытаецца як “W” (вор (wor) – злодзей).

Адзін з удзельнікаў будаўніцтва нафтаправода, старшы інжынер па абсталяванню Яўгеніюш Вавжыняк, апісаў у дзённіку сваё жыццё і працу ў Наваполацку з кастрычніка 1978 г. па верасень 1979 г. Дарога ў Наваполацк пачыналася ў Варшаве. З аэрапорта Акенце а 13 гад-

[6] AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/8/9/9, Rozmowy radziecko-polskie dot. technicznej dokumentacji i budowy naftociągu Połock-Bierżaj-Mażejkiaj 21 XII 1974 r., s. 1.

[7] AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/7/8/24, Budowa Połock-Birżaj-Mażejkiaj z siedzibą w Nowopołocku. Schemat organizacyjny, schemat powiązań uczestników realizacji budowy, notatki. s. 1.

[8] AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/3/4/5, Aneks do NPG na 1975 r. w zakresie budowy Rurociągów Orenburskiego i Płockiego, s. 10; AAN, Polska Zjednoczona Partia Robotnicza. Komitet Centralny w Warszawie, sygn. 2/1354/0/2.8.1/LXXVI-156, Posiedzenia i zebrania KZ, POP i Egzekutyw POP przy Ambasadzie PRL w ZSRR, s. 63; Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej w Warszawie (далей – AIPN Wa), Przedsiębiorstwa i prowadzone budowy rociągu i gazociągu w ZSRR, sygn. IPN BU 1616/300, s. 49.

зіне вылятаў самалёт у Мінск. У Мінску была перасадка на іншы самалёт да Полацка, пасадка ў Полацку а 20 гадзіне. Частка будаўнікоў дабіралася цягнікамі з Варшавы да Мінска, дзе чакалі аўтобусы да Наваполацка.

Наступным этапам было засяленне. Вавжыняк атрымаў невялікі пакой з душам і прыбіральняй на 5 паверсе гатэля "Беларусь". Праз чатыры месяцы (у канцы лютага 1979 г.) спецыяліст пераехаў у асобны пакой у 4-пакаёвай кватэры па адрасе вуліца Маладзёжная 104[9]. Частка службовых кватэр знаходзілася ў дамах па вуліцы Дружбы 6, 8 і 10[10].

Як жа бачылі горад і яго жыхароў польскія будаўнікі? Звернемся да дзённіка Я. Вавжыўняка і яго суб'ектыўнага погляду на Наваполацк. Так, знаёмства з савецкай рэчаіснасцю пачалося з атрымання інструкцыі ад супрацоўнікаў гасцініцы "Беларусь" аб правільным карыстанні прыбіральняй (выкарыстаныя паперкі неабходна было выкідваць толькі ў спецыяльную сметніцу каля ўнітаза і ні ў якім разе не закідваць іх ва ўнітаз).

Адназначна адмоўныя ўражанні склаліся ў польскіх грамадзян ад сферы гандлю з-за адсутнасці ў крамах упаковачнай паперы для прадуктаў харчавання і выкарыстоўвання газет у якасці ўпакоўкі, пераправеркі купленых тавараў пры выхадзе з крамы, вялікіх чэргаў за прадуктамі. У той жа час мясцовыя жыхары наракалі на адсутнасць тавараў у крамах і прычыну бачылі ў паляках, якія нібы мелі вялікія заробкі, скуплялі ўсё і вывозілі ў Польшчу.

Чэргі існавалі не толькі ў крамах, але і ў перагаворным пункце, які размяшчаўся ў паштовым аддзяленні на плошчы Будаўнікоў у цэнтры горада. Каб замовіць міжнародную размову неабходна было прыйсці ў вызначаны дзень і дамовіцца пра свой тэрмін на званок. Аператары аддзялення сувязі часта адмаўлялі ў запісах на размову, матывуючы адмову адсутнасцю вольных тэрмінаў. Незадаволеныя кліенты абураліся існуючай сітуацыяй і скардзіліся дырэкцыі будовы на немагчымасць звязацца з Польшчай.

Пад час свайго знаходжання ў Наваполацку інжынер Вавжыняк адзначаў існаванне праблемы п'янства сярод калег і жыхароў горада. Ён пісаў, што пасля афіцыйных шэсцяў на дзяржаўныя святы (гадавіна Кастрычніцкай рэвалюцыі, Дзень перамогі, свята 1 мая) у горадзе з'яўлялася шмат людзей нападпітку[11].

Праца на замежнай будове была высокааплатнай. Заробак складаўся з рублёў і злотых. Так, кіраўнік дырэкцыі зарабляў 1067 рублёў і каля 3100 злотых, галоўны ўрач 951 рубель і 3100 злотых. Заробкі на іншых пасадах прадстаўлены ў табліцы 2.

*Табліца 2. Заробкі польскіх будаўнікоў нафтаправода "Полацк"*[12]

| Пасада | Заробак у рублях | Заробак у злотых | Разам у далярах (курс на 1976 г.)13 |
|---|---|---|---|
| Кіраўнік дырэкцыі | 777-1067 | 2380-3100 | 1056-1449 |
| Намеснік кіраўніка | 777-951 | 2380-3100 | 1056-1294 |
| Галоўны ўрач | 750-918 | 2380-3100 | 1020-1250 |
| Галоўны дыспетчар | 672-840 | 2380-3100 | 916-1146 |
| Галоўны тэхнолаг | 616-778 | 2380-3100 | 841-1063 |
| Галоўны інжынер | 616-756 | 1848-2640 | 837-1030 |
| Кіраўнік тэхнічнага аддзела | 540-640 | 1848-2640 | 735-875 |
| Загадчык лабараторыі, перакладчык | 500-600 | 1848-2640 | 682-822 |

[9] Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej we Wrocławiu (далей – AIPN Wr), Archiwum osobiste: Roman Korab-Żebryk, sygn. IPN Wr 221/329, Opracowanie Eugeniusza Wawrzyniaka pt. "Wspomnienia z "Rury", s. 1, 18, 24.

[10] APG, Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe Budownictwa „Transbud-Gdańsk" w Gdańsku, sygn. 10/2556/0/-/117, Oddział nr 10 - NOWOPŁOCKI. Zarządzenia, polecenia służbowe kierownictwa budowy rurociągu, s. 253.

[11] AIPN Wr, Archiwum osobiste: Roman Korab-Żebryk, sygn. IPN Wr 221/329, Opracowanie…, s. 2-9.

[12] APG, Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe Budownictwa "Transbud-Gdańsk" w Gdańsku, sygn. 10/2556/0/-/119, Oddział nr 10 - NOWOPŁOCKI. Zarządzenia, polecenia służbowe kierownictwa budowy rurociągu, Tabela miesięcznych wynagrodzeń walutowych, s. 1-3.

[13] Абменны курс польскага злотага да даляра паводле Stola D., *Kraj bez wyjścia? Migracje z Polski 1949-1989.* Warszawa, 2020, s. 482.; абменны курс савецкага рубля да даляра паводле *Курсы валют за период до 01.07.1992* [в:] Архивная копия сайта Центрального банка Российской Федерации. : https://web.archive.org/web/20160115224115/http://www.cbr.ru/currency_base/OldDataFiles/USD.xls. ( Дата доступу: 15.02.2022)

| | | | |
|---|---|---|---|
| Загадчык склада | 470-570 | 1320-1848 | 638-775 |
| Працаўнікі ІТР | 440-530 | 1320-1848 | 598-722 |
| Адміністрацыйны персанал | 410-500 | 1320-1848 | 558-682 |
| Аператар, мантажнік | 600 | 3000 | 825 |
| Кіроўцы аўтацыстэрн, аўтобусаў (месцаў >15), грузавікоў (з дапушчальнай масай >13т), баластных цягачоў | 530 | 2550 | 728 |
| Кіроўцы грузавікоў (з дапушчальнай масай <13т), аўтобусаў (<15 месцаў) | 500 | 2400 | 687 |
| Кіроўцы грузавікоў (з дапушчальнай масай <3,5т) легкавых аўтамабіляў | 470 | 2250 | 645 |
| Повар | 400 | 1716 | 548 |
| Памочнік повара | 340 | 1320 | 464 |
| Прыбіральшчык | 300 | 1760 | 415 |

Заробкі сапраўды былі вялікімі. Для параўнання, легкавы аўтамабіль Fiat 126р на пачатку 1980-х гг. каштаваў у Польшчы каля 1700 даляраў, пралка – каля 80 даляраў, каляровы тэлевізар – каля 170 даляраў[14,15].

Пасля цяжкай працы на будаўніцтве нафтаправода патрэбен быў адпачынак. Кіраўніцтва Дырэкцыі будовы, партыйная ячэйка Польскай аб'яднанай рабочай партыі (ПАРП), ячэйкі Саюза польскай моладзі (СПМ) надавалі вольнаму часу будаўнікоў вялікую ўвагу. Кіраўніцтва спрабавала зрабіць час па-за працай разнастайным.

На тэрыторыях будаўнічых гарадкоў з'яўляліся пляцоўкі для гульні ў футбол, валейбол, бадмінтон, ствараліся сцежкі здароўя, выдзяляліся абанементы ў басейн. У пакоях адпачынку былі ўсталяваныя тэлевізары, працавалі радыёвузлы, прыходзіла польская перыёдыка.

Перадавікоў узнагароджвалі пуцёўкамі на Чорнае мора, паездкамі ва Узбекістан, Ленінград, Маскву, Вільнюс, Рыгу.

Нельга абмінуць пытанне ідэалагічнага выхавання. У межах партыйнай работы праводзіліся палітычныя заняткі. Вось некаторыя тэмы: *"Гістарычнае значэнне Вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі"*, *"Актуальныя праблемы і перспектывы супрацоўніцтва ПНР і СССР"*, *"Маральная пазіцыя чалавека ў эпоху развітага сацыялізма"*, *"Месца Польшчы ў свеце. Замежная палітыка ПНР"*, *"Мірнае суіснаванне дзяржаў з рознымі сацыяльна-палітычнымі сістэмамі"*. Лектарамі выступалі як польскія, так і савецкія палітработнікі[16].

Самай масавай формай адпачынку быў прагляд фільмаў. З 1975 па 1977 гг. паказ фільмаў адбываўся з дапамогай перасоўных аўтакінаўстановак. Са з'яўленнем стацыянарных кінаўстановак павялічылася колькасць паказаў і гледачоў: калі ў 1975 г. было толькі 2 паказы на 500 гледачоў, то ў 1977 г. – 62 паказы і 7 300 гледачоў (табліца 3).

Вялікай папулярнасцю карысталіся фільмы *"Запаветная зямля" ("Ziemia obiecana"), "Маёр Губаль" ("Hubal"), "Чырвоная рабіна" ("Jarzębina czerwona"), "Казімір Вялікі" ("Kazimierz Wielki"), "Гісторыя граху" ("Dzieje grzechu"), "Пан Валадыёўскі" ("Pan Wołodyjowski"), "Усе свае" ("Sami swoi"), "Стаўка, большая за жыццё" ("Stawka większa niż życie"), "Мужыкі" ("Chłopi")*. Глядацкі рэкорд быў пабіты на паказе фільма *"Прабачце, ці тут б'юць" ("Przepraszam czy tu biją")*, які паглядзелі 3 000 працаўнікоў. На адным з паказаў фільма прысутнічалі рэжысёр Марэк Півоўскі (Marek Piwowski) і 2 акторы[17].

Для папулярызацыі рускай мовы сярод польскіх будаўнікоў, акрамя польскіх дэманстравалі і савецкія фільмы.

---

[14] Sewastianowicz S., *Tak Polacy w PRL kupowali auta za dolary. Ceny ścinają z nóg!* [w] Fakt.pl.: https://www.fakt.pl/hobby/historia/pewex-w-prl-jak-polacy-kupowali-nowe-samochody-za-dolary/gf67wb2. (Дата доступу: 18.02.2022).

[15] *Ceny i zarobki w PRL – na co wystarczała pensja w Polsce Ludowej* [w:] *Kroniki Dziejów*.: https://kronikidziejow.pl/porady/ceny-i-zarobki-w-prl-na-co-wystarczala-pensja-w-polsce-ludowej. (Дата доступу: 08.05.2022).

[16] AAN, Polska Zjednoczona Partia Robotnicza. Komitet Centralny w Warszawie, sygn. 2/1354/0/2.8.1/LXXVI-156, Posiedzenia i zebrania KZ, POP i Egzekutyw POP przy Ambasadzie PRL w ZSRR, Sprawozdanie z 2 IV 1977, s. 64-65.

[17] AAN, Federacja Socjalistycznych Związków Młodzieży Polskiej. Rada Główna w Warszawie, sygn. 2/1718/0/13.16/382, ZSRR – współpraca Federacji Socjalistycznych Związków Młodzieży Polskiej z Wszechzwiązkowym Leninowskim Komunistycznym Związkiem Młodzieży, s. 34-36.

Супольна з камсамольскімі арганізацыямі ладзіліся танцавальныя вечарыны. Паводле падлікаў пярвічкі саюза польскай моладзі, у 1975 г. у Наваполацку адбылася 1 вечарына, дзе бавілі час 70 удзельнікаў, затое ў 1976 г. такіх вечарын было 68 (8210 удзельнікаў) (табліца 3). Праводзіліся сумесныя польска-савецкія вечарыны і на мясцовых прадпрыемствах. Так, на заводзе штучнага валакна ў Полацку (цяпер – "Полацкшкловалакно") у лютым 1976 г. адбыўся вечар з удзелам 300 чалавек.

*Табліца 3. Забаўляльныя мерапрыемствы для будаўнікоў у Наваполацку*[18]

| | 1975 г. | | 1976 г. (І паўгоддзе) | | 1976 г. (ІІ паўгоддзе) | | 1977 г. (І паўгоддзе) | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | Колькасць | Удзельнікі | Колькасць | Удзельнікі | Колькасць | Удзельнікі | Колькасць | Удзельнікі |
| Паказы фільмаў | 2 | 500 | 13 | 1875 | 13 | 2500 | 62 | 7300 |
| Танцавальныя вечарыны | 1 | 70 | 38 | 2930 | 30 | 5280 | 21 | 3450 |
| Канцэрты | 3 | 425 | 29 | 3905 | 14 | 1520 | 19 | 1700 |

Часам сяброўскія адносіны маладых людзей перарасталі ў нешта большае. Ад пачатку будаўніцтва нафтаправоду да 1977 г. сярод польскіх грамадзян і савецкіх грамадзян было заключана 30 шлюбаў[19].

Польскія будаўнікі прымалі актыўны ўдзел у святочных дэманстрацыях да 1 мая, 7 лістапада. Яны неслі транспаранты і таблічкі з назвамі прадпрыемстваў, упрыгожвалі свае аўтамабілі.

Блізкасць ракі Заходняя Дзвіна і возера Люхава дазваляла з карысцю правесці час аматарам рыбалкі і плавання. Зімой некаторыя хадзілі на лыжах.

Частка будаўнікоў прыязджала са сваімі фотаапаратамі, каб зрабіць на памяць здымкі і паказаць родным свой быт і працу за мяжой. Адным з такіх фотааматараў быў Генрык Рыцько. Ён працаваў у гданьскім аддзеле транспартнага прадпрыемства "Трансбуд" ("Transbud") на пасадзе токара. За час працы ён зрабіў некалькі сотняў здымкаў, якія паказваюць жыццё ў Наваполацку канца 1970-х пачатку 1980 гг. Рыцько нават спрабаваў атрымаць дазвол у Дырэкцыі будовы нафтаправода на адкрыццё на базе фотастудыі, але нічога не атрымалася[20].

Яшчэ адзін будаўнік, кіраўнік з "Інтэрбуду", Войцех Канечны займаўся фотапаляваннем у лясах уздоўж трасы нафтаправода[21].

Атрымліваючы высокія заробкі, будаўнікі маглі сабе дазволіць наведваць рэстараны горада. Улюбёнымі месцамі былі рэстаран "Пралеска" і рэстаран у гатэлі "Беларусь". Нярэдкімі былі выпадкі, калі польскія будаўнікі, знаходзячыся ў стане алкагольнага ап'янення, пачыналі хуліганіць, развязваць бойкі. Са злоўжываннем алкаголем змагаліся рознымі метадамі. Так, з працаўнікоў будовы была створана "Грамадская камісія аховы парадку", якая дзяжурыла ў грамадскіх месцах Наваполацка, адкуль маглі забіраць будаўнікоў, якія былі на моцным падпітку. Камісія дзейнічала па ўзгадненні з мясцовай міліцыяй. Акрамя таго, Дырэкцыя разрывала працоўныя кантракты з такімі працаўнікамі і высылала назад у Польшчу з забаронай на выезд з краіны на 2-3 гады[22].

[18] Ibidem.

[19] Ibidem, s. 35.

[20] Фотаздымкі з архіва Генрыка Рыцько часткова апублікаваныя на сайце "*gorod214.by – Сайт города Полоцка и Новополоцка*", гл. https://gorod214.by/new/8528 і https://gorod214.by/new/8544.

[21] *In memoriam* [w:] *Politechnika Gdańska. Wydział budownictwa lądowego – Rocznik 60.* : https://pg60bl.pl/in-memoriam. ( Дата доступу: 15.02.2022).

[22] AAN, Polska Zjednoczona Partia Robotnicza. Komitet Centralny w Warszawie, sygn. 2/1354/0/2.8.1/LXXVI-146, Posiedzenia i zebrania grup partyjnych, POP i Egzekutyw POP i ZMS przy budowach w ZSRR, szkolenia polityczne, praca społeczno-polityczna, przyjęcia i wykluczenia z partii, Nowopołock, Protokół 1/76 z posiedzenia Prezydium Rady Koordynacyjnej na budowie rurociągu, s. 2.

Кіраўніцтва будовы нафтаправода “Полацк” у сваіх справаздачах у Варшаву адзначала, што маштаб злоўжывання алкаголем быў велізарны. Часта выпадкі п’янства хаваліся, каб не псаваць статыстыку.

Колькасць правапарушэнняў сярод польскіх грамадзян, зафіксаваная мясцовай міліцыяй за 1977 і 1978 гады, выглядае наступным чынам: выпадкі хуліганства ў 1977 г. – 9, 1978 г. – 8; затрыманні ў стане алкагольнага ап’янення: 1977 г. – 44, 1978 г. – 50; затрыманыя ў медвыцвярэзніку: 1977 г. – 14, 1978 г. –10[23].

Дырэкцыя спрабавала вырашыць праблему некалькімі метадамі: па-першае – змяншэнне часткі заробку, які будаўнікі атрымлівалі на рукі (з 50% да 25%) і перавод рэшты на польскі банкаўскі рахунак; па-другое – павелічэнне колькасці культурна-спартыўных мерапрыемстваў; па-трэцяе – удасканальванне падбору кадраў для будовы[24].

Яшчэ адной сур’ёзнай праблемай для савецкіх уладаў і кіраўніцтва будовы быў нелегальны гандаль таварамі, прывезенымі працаўнікамі кантрабандай з Польшчы.

Хоць і былі мытныя абмежаванні як з польскага, так і з савецкага боку, у справаздачах Міністэрства ўнутраных спраў Польшчы адзначаліся шматлікія спробы перавозак рэчаў не для асабістых мэтаў. Напрыклад, было ўстаноўлена, што некаторыя вадзіцелі фірмы “Transbud”, якія перавазілі машыны, будматэрыялы і абсталяванне, арганізавана займаліся таксама кантрабандай тавараў.

У канцы 1975 г. польскія мытнікі знайшлі ў апламбаваных мяшках, якія перавозіліся ў Наваполацк, вялікую колькасць прадметаў на продаж. Шэсць асоб, якія ўдзельнічалі ў кантрабандзе, выслалі з СССР, і супраць іх польская пракуратура распачала расследаванне.

З цягам часу савецкая мытня ўзмацніла кантроль на мяжы як на прыбыццё, так і на выезд з краіны. У лютым 1976 г. пад час мытнага кантролю ў Брэсце з 40 польскіх аўтамабіляў амаль палову вярнулі на польскі бок з-за адсутнасці дэкларацый на тавары. Гэты факт быў патрактаваны як спроба ўтойвання перад мытняй рэчаў, якія перамяшчаліся з мэтай продажу[25].

З замежнымі таварамі ў горадзе сутыкнуліся амаль ўсе жыхары. Як толькі з’явілася магчымасць купіць нешта замежнае, то “куплялі нават паліэтыленавыя пакеты па 5 рублёў”, адзначае навапалачанка Ірына Болазева[26].

Попытам у Наваполацку карысталіся складныя парасоны, парыкі, касметыка, вопратка. Як адзначаў інжынер Анджэй Васілеўскі ў сваіх успамінах аб працы ў Наваполацку, калі ён жыў у гасцініцы “Беларусь”, да яго і іншых польскіх пастаяльцаў звярталіся работніцы гасцініцы з просьбамі, каб яны прывозілі “розную драбязу”, напрыклад, складныя дамскія парасоны[27].

Калі заробак навапалачаніна ў канцы 1970-х – пачатку 1980-х гг. налічваў каля 150-160 рублёў, то джынсы “Wrangler” ці “Montana” у палякаў каштавалі каля 180 рублёў[28]. Атрымліваючы частку заробку на польскі банкаўскі рахунак, будаўнікі набывалі дэфіцытныя заходнія тавары ў крамах “Pewex” (Прадпрыемства ўнутранага экспарту Pewex). Набываючы джынсы ў Польшчы за 22 даляры (16,5 рублі), прадавалі ў пераліку за 240 доляраў. Цанавая розніца паміж пакупкай джынсаў у Польшчы і перапродажам у СССР уражвае (амаль у 11 разоў). Часта замест арыгінальных джынсаў трапляліся падробленыя, але з часам навапалачане пачалі разбірацца, якія купляць, а якія не.

Дзецям падабаліся жвачкі з коміксамі “Болек і Лёлек” (“Bolek i Lolek”). Жвачкі траплялі не толькі да наваполацкіх дзяцей, але і да дзяцей з бліжэйшых да горада вёсак. Так, жыхар вёскі

[23] AIPN Wa, Ministerstwo Spraw Wewnętrznych w Warszawie [1944] 1954-1990, IPN BU 1594/597, Wyjazdy do ZSRR, polityka paszportowo-wizowa, międzynarodowe akty prawne, przyjazdy cudzoziemców, s. 63-64.

[24] AIPN Wa, Ministerstwo Spraw Wewnętrznych w Warszawie 1956-1990, sygn. IPN BU 1616/300, Przedsiębiorstwa i prowadzone budowy ropociągu i gazociągu w ZSRR – wykazy przedsiębiorstw, sprawy personalne, budowa ropociągu Nowopołock i gazociągu Charków, informacje dotyczące zatrudnionych obywateli polskich, s. 102-103.

[25] AIPN Wa, Ministerstwo Spraw Wewnętrznych w Warszawie 1956-1990, sygn. IPN BU 01252/206, Informacja dotycząca istniejącej sytuacji na budowach gazociągu orenburskiego i ropociągu nowopołockiego, realizowanych przez stronę polską, s. 4-5.

[26] Запісана аўтарам ад Болазевай Ірыны Эдуардаўны (1959 г.н.) у 2022 г.

[27] Wasilewski A., *Notatki zza wschodniej granicy*, [w:] “*Inżynier Mazowsza*”, 2021, nr 3 (91), s. 24-25.

[28] Запісана аўтарам ад Супранёнка Ігара Уладзіміравіча (1967 г.н.) у 2022 г.

Бяздзедавічы Полацкага раёна Алег Рудакоў успамінае, як ён і іншыя дзеці спынялі польскія грузавыя аўтамабілі “Tatra”, каб пракаціцца ад вёскі да бліжэйшага кар’ера. Пасля ў дзяцей узнікла “традыцыя” дзякаваць вадзіцелям: перадавалі то яблыкі, то агуркі, то памідоры. А вадзіцелі дзецям дарылі жвачкі[29].

Кантрабандай тавараў займаліся як простыя будаўнікі, так і начальства, сярод якіх былі члены ПАРП і саюза моладзі.

Для барацьбы з нелегальным гандлем міліцыя выстаўляла пасты каля польскіх баз. Напрыклад, навапалачанін Ігар Супранёнак успамінае, што гараж яго бацькоў, які знаходзіўся ў раёне кінатэатра “Космас”, аднойчы ператварыўся ў наглядальны пункт за польскім гарадком. Міліцыянер папрасіў дазвол размясціцца ў гаражы Супранёнкаў і паназіраць за базай. У самаго Ігара ў тыя гады з’явілася замежная майка “California” і фламастары, а ў таты Уладзіміра, які працаваў фотакарэспандэнтам – асвятленне і лупа для рэзкасці[30].

Інжынер Вавжыняк таксама апісваў у сваім дзённіку міліцэйскія засады каля базы. “Перад польскай базай №1 у Наваполацку часта дзяжурылі міліцыянеры, як у форме, так і ў грамадзянскай вопратцы. Былі выпадкі ўваходу міліцыі на тэрыторыю базы”. Галоўнай мэтай такіх “візітаў” з’яўлялася “лоўля савецкіх дзяўчат і нелегальных гандляроў, якія прыходзілі да палякаў”. Дзяўчын фатаграфавалі, перапісвалі іх дадзеныя, з гандлярамі рабілі тое самае.

На зробленыя грошы (у тым ліку на продажы кантрабанды) польскія будаўнікі куплялі залатыя ўпрыгожванні, інструменты, ровары, нержавейку, хрусталь, сталовыя прыборы, алкаголь, халадзільнікі, тэлевізары. Мелі месца выпадкі, калі будаўнікі куплялі золата не ў крамах, а з рук, і набывалі падробкі. Набытыя рэчы яны перавозілі самі або высылалі пасылкамі ў Польшчу.

За парушэнні працоўнай дысцыпліны, п’янства, перамяшчэнні па незацверджаным маршрутам, кантрабанду і нелегальны гандаль працаўнікоў высылалі з будовы ў сціслы тэрмін. Толькі за 1975 г. было выслана 4% ад усіх працаўнікоў будовы (85 чал.)[31].

З’яўленне замежных будаўнікоў паўплывала на аблічча Наваполацка. Напрыклад, на вуліцах сустракаліся новыя маркі аўтамабіляў з нетыповымі нумарнымі знакамі, у раёне гасцініцы “Беларусь” вісеў транспарант *“Niech żyje przyjaźń polsko-radziecka!”* (“Няхай жыве польска-савецкае сяброўства!”). Як успамінае Ігар Супранёнак, у гарадскіх шапіках “Саюздруку” побач з савецкімі газетамі прадаваліся польскія часопісы “Шпількі” (“Szpilki”), “Прыгажосць” (“Uroda”).

4 лютага 1985 г. загадам генеральнага дырэктара фірмы “Energopol” быў створаны аддзел па ліквідацыі Дырэкцыі будовы нафтаправода “Полацк”, тым самым будаўнічыя працы завяршаліся[32].

Аб тым, што навапалачане і сёння памятаюць пра час, калі ў горадзе працяглы перыяд жылі і працвалі палякі, сведчыць той факт, што за адным з будынкаў у цэнтры горада замацавалася народная назва “полька”. Будынак, у якім зараз размяшчаецца Цэнтр рамёстваў і традыцыйнай культуры, быў пабудаваны на патрэбы наваполацкага ўпраўлення “Саюзінтэргазбуд” і быў уведзены ў эксплуатацыю ў 1979 г. Дырэкцыя будовы нафтаправода “Полацк” займала ў гэтым будынку падвал і часткова 1 і 2 паверхі.

Такім чынам, за дзесяць гадоў прысутнасці ў горадзе польскіх будаўнікоў навапалачане атрымалі новы сацыяльны вопыт узаемадзеяння з замежнікамі. У сваю чаргу, палякі таксама актыўна інтэграваліся ў жыццё горада. Прадстаўнікі польскіх будаўнічых прадпрыемстваў прымалі ўдзел у гарадскіх шэсцях і дэманстрацыях, спартыўных і культурных мерапрыемствах, заводзілі новыя знаёмствы.

[29] *Мір-Дружба-Жвачка!! – известная поговорка стала популярной в деревне Бездедовичи в 1979-1980 гг.* [в:] *Youtube-канал Алега Рудокова*: https://www.youtube.com/watch?v=62qaHR53BwI. (Дата доступу: 27.02.2022).

[30] Запісана аўтарам ад Супранёнка Ігара Уладзіміравіча (1967 г.н.) у 2022 г.

[31] AIPN Wa, Ministerstwo Spraw Wewnętrznych w Warszawie 1956-1990, sygn. IPN BU 1616/300, Przedsiębiorstwa i prowadzone budowy ropociągu i gazociągu w ZSRR – wykazy przedsiębiorstw, sprawy personalne, budowa ropociągu Nowopołock i gazociągu Charków, informacje dotyczące zatrudnionych obywateli polskich, s. 62.

[32] APG, Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe Budownictwa “Transbud-Gdańsk” w Gdańsku, sygn. 10/2556/0/-/118, Oddział nr 10 - NOWOPŁOCKI. Zarządzenie nr 1 z dnia 02 lutego 1985, s. 1.

Комплекс прычын (адсутнасць выбару, недахоп тавараў у крамах горада, жаданне зарабіць на перапродажы тавараў) натуральным чынам прывёў да з'яўлення кантрабанды і нелегальнага гандлю ў полацкім рэгіёне.

Наяўнасць на руках у польскіх будаўнікоў значных сум грошай, даступны і танны алкаголь нярэдка прыводзілі да разрыву працоўных кантрактаў і да высылкі будаўнікоў з СССР, а таксама былі аднымі з прычын пагаршэння стану грамадскай бяспекі ў Наваполацку.

Лёс жа пабудаваных нафтаправодаў склаўся па-рознаму. Так, на сённяшні дзень па нафтаправодзе "Полацк-Сургут" паступае нафта з Расіі на нафтаперапрацоўчы завод "Нафтан", а вось нафтаправод "Полацк-Мажэйкей", на жаль, сваю функцыю ў перапампоўцы нафты не выконвае.

***Бібліяграфія:***


*Літаратура*

Stola D., *Kraj bez wyjścia? Migracje z Polski 1949-1989.* Warszawa, 2020.

Wasilewski A., *Notatki zza wschodniej granicy*, [w:] "Inżynier Mazowsza", 2021, nr 3 (91), s. 24-25.

Филипенко В., *Экзамен по истории родного предприятия*, [в:] "Вестник Нафтана", 2020, № 5 (627), с. 4-5.

*Архіўныя крыніцы*

Archiwum Akt Nowych (далей – AAN), Generalna Dyrekcja Budowy Rurociągów Energetycznych "Energopol" w Warszawie, sygn. 2/929/0/3/4/5.

AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/7/8/24.

AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/8/9/5.

AAN, Generalna Dyrekcja Budowy…, sygn. 2/929/0/8/9/9.

AAN, Polska Zjednoczona Partia Robotnicza. Komitet Centralny w Warszawie, sygn. 2/1354/0/2.8.1/LXXVI-146.

AAN, Polska Zjednoczona Partia Robotnicza…, sygn. 2/1354/0/2.8.1/LXXVI-156.

AAN, Federacja Socjalistycznych Związków Młodzieży Polskiej. Rada Główna w Warszawie, sygn. 2/1718/0/13.16/382.

Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej w Warszawie (далей – AIPN Wa), Ministerstwo Spraw Wewnętrznych w Warszawie 1956-1990, sygn. IPN BU 01252/206.

AIPN Wa, MSW w Warszawie [1944] 1954-1990, sygn. IPN BU 1594/597.

AIPN Wa, MSW w Warszawie 1956-1990, sygn. IPN BU 1616/300.

Archiwum Instytutu Pamięci Narodowej we Wrocławiu, Archiwum osobiste: Roman Korab-Żebryk, sygn. IPN Wr 221/329.

Archiwum Państwowe w Gdańsku (далей – APG), Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe Budownictwa "Transbud-Gdańsk" w Gdańsku, sygn. 10/2556/0/-/117.

APG, Przedsiębiorstwo Transportowo-Sprzętowe…, sygn. 10/2556/0/-/119.

*Інтэрнэт-крыніцы*

Sewastianowicz S., *Tak Polacy w PRL kupowali auta za dolary. Ceny ścinają z nóg!* [w:] *Fakt.pl*.: https://www.fakt.pl/hobby/historia/pewex-w-prl-jak-polacy-kupowali-nowe-samochody-za-dolary/gf67wb2. (Дата доступу: 18.02.2022).

*Ceny i zarobki w PRL – na co wystarczała pensja w Polsce Ludowej* [w:] *Kroniki Dziejów*: https://kronikidziejow.pl/porady/ceny-i-zarobki-w-prl-na-co-wystarczala-pensja-w-polsce-ludowej. (Дата доступу: 08.05.2022).

*In memoriam* [w:] *Politechnika Gdańska. Wydział budownictwa lądowego – Rocznik 60*. : https://pg60bl.pl/in-memoriam. (Дата доступу: 15.02.2022).

*60-летию Новополоцка посвящается. История города по десятилетиям* [в:] *Новая газета*. : https://www.novaya.by/2018/05/07/60-letiyu-novopolocka-posvyashhaetsya-istoriya-goroda-po-desyatiletiyam. (Дата доступу: 15.02.2022).

*Курсы валют за период до 01.07.1992* [в:] *Архивная копия сайта Центрального банка Российской Федерации.*: https://web.archive.org/web/20160115224115/http://www.cbr.ru/currency_base/OldDataFiles/USD.xls. ( Дата доступу: 15.02.2022).

*Мір-Дружба-Жвачка!! – известная поговорка стала популярной в деревне Бездедовичи в 1979-1980 гг.* [в:] *Youtube-канал Алега Рудакова* : https://www.youtube.com/watch?v=62qaHR53BwI. (Дата доступу: 27.02.2022).

